# Рэгіянальная газета. Rh.by



тэлетыдзень

27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

16 верасня 2016 года №38 **(1116)**





**Маладзечанец з нявестай згуляў вяселле па-шляхецку**

старонка 21

**У Вілейцы прадставілі дэталёвы праект забудовы цэнтра горада**

старонка 3

**Чатыры гадзіны ў судзе абмяркоўвалі кірзавыя боты**

старонка 4



# 260 чалавек на Маладзечаншчыне стануць навасёламі да канца года

- ✓ Чаму ў Маладзечне цэны трымаюцца на ўзроўні мінскіх?
- ✓ Што ўплывае на цану жылля?
- ✓ Ці вырастуць цэны на нерухомасць?
- ✓ Як прадаць кватэру даражэй?
- ✓ Як рухаюцца чэргі ў рэгіёне?

старонка 5

Фота thebalance.com

# "РГ" запускае конкурс "Дзясятачка"

## Выйграй планшэт за выдатную вучобу

**Пачатак навучальнага года – добры час навучыцца новаму, даведацца пра раней невядомае і даць сабе абяцанне стаць лепшым.**

Для школьнікаў рэгіёна мы прапануем у пачатку года конкурс, які заахвоціць вучыцца "на выдатна".

Запоўніце гэты бланк, дайце на подпіс настаўніку і дашліце яго ці прынясіце ў рэдакцыю "Рэгіянальнай газеты".

Адрас рэдакцыі:

✉ 222304, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а, "Рэгіянальнай газеце". Калі будзеце дасылаць поштай, зрабіце на канверце пазнаку "10-ка".

Падводзіць вынікі мы будзем напрыканцы тыдня – абіраць пераможцу, якому ўручым падарункі. Усе заяўкі будуць удзельнічаць у розыгрышы галоўнага прыза ў канцы конкурсу.

У конкурсе ўдзельнічаюць толькі арыгінальныя бланкі, выразаныя з газеты. Ксеракопіі да ўдзелу не дапускаюцца.

Адзін чалавек можа ўдзельнічаць колькі заўгодна, але толькі адзін раз з адной адзнакай. Да ўдзелу запрашаюцца вучні ўсіх класаў сярэдніх школ і гімназій, размешчаных у рэгіёне выхаду "Рэгіянальнай газеты".

Удзельнічаць у конкурсе могуць тыя школьнікі, якія атрымалі адзнакі "9" ці "10" па любым прадмеце за гэты навучальны год.

Бланк можа запаўняць вучань, бацькі або настаўнік. Падпісваць бланк у адпаведным акенцы можа толькі настаўнік.

Першы розыгрыш падарункаў пройдзе 23 верасня ў 15 гадзін. Пераможца будзе выбірацца выцягваннем бланка ўслепую. Удзельнікі конкурсу могуць пры гэтым прысутнічаць. Усе навіны па конкурсе чытайце ў газеце і на сайце rh.by. Там жа шукайце імёны пераможцаў.

Настаўнікі, чые дзеці дашлюць найбольш заявак, таксама будуць узнагароджаны рэдакцыяй.

А цяпер пра прызы.

У тыднёвых розыгрышах удзельнікі атрымліваюць шанец выйграць рукзак, сумку для ноўтбука, кубак, бірульку ці палатняную торбачку.

У розыгрышы галоўнага прыза ўдзельнічаюць усе заяўкі, дасланыя ад 16 верасня да 28 кастрычніка. Вынікі галоўнага тура будуць падведзеныя ў лістападзе. Галоўны пераможца атрымае планшэт.

Дадатковы прыз – паход для ўсяго класа ў піцэрыю – мы разыграем іншым чынам: праз галасаванне на сайце за ўсе класы, вучні якіх даслалі заяўкі. Які клас атрымае найбольш галасоў, той і пойдзе ў піцэрыю.

Жадаем вам поспеху і выдатнай вучобы!

### Бланк удзельніка конкурсу "Дзясятачка"




- Імя, прозвішча ____________
- Дата нараджэння ____________
- Клас ____________
- Школа ____________
- Населены пункт ____________
- Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі ____________
- Прадмет, за які атрыманы бал ____________
- Які бал атрымаў ("9" ці "10") ____________
- Дата, калі быў атрыманы бал ____________
- Імя, імя па бацьку і прозвішча настаўніка ____________
- Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам ____________
- Подпіс настаўніка ____________



# Дарожныя войны ў Маладзечне

## Як аўтааматару памірыцца з пенсіянерам?

МАЛАДЗЕЧНА

**Да нас у рэдакцыю прыйшоў ліст ад маладзечанскага аўтааматара. Ліст напісаны так эмацыйна і маляўніча, што мы вырашылі не рэдагаваць яго, а ў такім выглядзе накіраваць у Маладзечанскую ДАІ.**



У двары па Вялікім Гасцінцы пенсіянер самастойна ўсталяваў слупок, які перашкаджае праезду машын.

Фота Наталлі ТУР.

"Пятнічная пагодлівая раніца. Нічога не прадвяшчала бяды. Але раптам, знянацку моцны трэск і шум дна аўтамабіля, якое чапляецца за асфальт. Адарваны бампер, прабіты паддон і бензабак…

Менавіта так і варта было б пачынаць гэту гісторыю, аднак аўтару пашанцавала, бо ён своечасова заўважыў гэты бетонны слупок, які "воздвиг нерукотворно" жыхар аднаго з дамоў па Вялікім Гасцінцы.

Адразу нараджаецца пытанне: чым перашкаджае мужчыну, якому на выгляд 60-65 гадоў, сівому, у сіняй кашулі ў клетачку, які жыве ў другім пад'ездзе, гэты праезд?

Верагодней за ўсё, у яго няма ўласнага аўтамабіля і яму надакучылі машыны, якія дымяць выхлапнымі газамі і сноўдаюць у яго пад вокнамі.

Але пачакайце. Тут нават у базарны дзень у лепшым выпадку праедзе два-тры аўтамабілі ў гадзіну.

I вось што цікава, а самім жыхарам дома хіба не трэба пад'язджаць да пад'езда?

А цяпер давайце падумаем, якія ж законы парушыў той чалавек, што ўсталяваў слупок:

1. Ён займаецца самаўпраўствам, гэта відавочна. Да таго ж гэта можа быць незаконны захоп зямлі. Сумняваюся, што ён сваю "творчасць" узгадніў з аддзелам архітэктуры ці іншай горадабудаўнічай службай? А ці падумаў гэты "народны архітэктар" пра тое, што ён можа стаць прычынай псавання прыватнай маёмасці?

2. А як жа правы грамадзян на свабоднае перамяшчэнне? Менавіта гэты чалавек не захацеў, каб там ездзілі!

3. А як да пад'езда будзе пад'язджаць "хуткая дапамога" або пажарныя?

Ананімна, калі ласка".

Гэтыя пытанні мы задалі намесніку начальніка Маладзечанскай ДАІ **Уладзіміру Мумрыкаву**:

– Каб атрымаць поўны і кампетэнтны адказ, нашаму інжынеру неабходна выехаць на гэта месца і ацаніць абстаноўку. Адказ абавязкова дадзім.

**Наталля ТУР.**

## Былы прэзідэнт Ізраіля Шымон Перэс знаходзіцца ў цяжкім стане

Шымон Перэс, які паходзіць з Валожыншчыны, знаходзіцца ў стабільна цяжкім стане, сям'і давядзецца прыняць "няпростае рашэнне".

Былы прэзідэнт Ізраіля знаходзіцца ў рэанімацыйным аддзяленні медыцынскага цэнтра "Шыба" (Тэль а-Шомэра). Яго стан ацэньваецца дактарамі як стабільна цяжкі, паведамляюць прэс-службы "Шыбы".

Мяркуючы па наяўных дадзеных, кровазліццё ў мозг спынілася, але Перэс знаходзіцца ў вельмі цяжкім стане.

Позна ўвечары 13 верасня генеральны дырэктар "Шыбы" прафесар **Іцхак Крайс** заявіў: "Дзявяты прэзідэнт Ізраіля Шымон Перэс перанёс цяжкі інсульт, які суправаджаецца масіраваным унутраным кровазліццём. Ён падлучаны да апарата штучнага дыхання. У бліжэйшыя гадзіны будзе праведзеная дадатковая ацэнка сітуацыі".

Сын Перэса, **Хемі Перэс**, сказаў: "У бліжэйшыя гадзіны нам трэба будзе прыняць няпростыя рашэнні. Мы дзякуем усім, хто падтрымлівае нас у гэтыя няпростыя часы".

На думку каментатараў, дактарам і сям'і Шымона Перэса трэба будзе прыняць рашэнне, ці праводзіць аперацыю або абмежавацца медыкаментозным умяшаннем.

Шымон Перэс нарадзіўся ў 1923 годзе ў беларускім Вішневе (сёння – Валожынскі раён). Яго палітычная кар'ера налічвае 70 гадоў.

**"Наша ніва" паводле newsru.co.il.**

## "Мова Нанова" распачынае новы сезон

МАЛАДЗЕЧНА

Пасля летніх канікул лаў "Мова Нанова" вяртаецца да сваіх студэнтаў.

Заняткі па-ранейшаму будуць праходзіць па аўторках у 18:00.

Нават адрас пакуль застаўся той жа: Вялікі Гасцінец, 121, бібліятэка "Верасок".

У гэтым сезоне наведнікаў чакае шмат сюрпрызаў, пачынаючы ад новых вядучых да супертурніру знаўцаў беларускай мовы, культуры, літаратуры і гісторыі.

Сёлета нязменныя вядучыя **Настасся Роўда** і **Наталля Тур** абяцаюць больш часу адводзіць дыскусіям, токшоу.

Весці граматычную частку заняткаў мы запрасілі прафесійнага філолага, які не дасць расслабіцца і не выканаць заданне.

Першыя заняткі адбудуцца 20 верасня.

На іх мы запрасілі спявачку, паэтку, прыгажуню **Кацярыну Ваданосаву**.

Па-першае, яна музыкант. Кацярына гадзінамі можа расказваць пра свой улюбёны класічны рок ды рок-н-рол.

Па-другое, Каця – пераплётчыца. Яна робіць кнігі, займаецца гістарычнай каліграфіяй.

Акрамя таго, Кацярыну цікавіць сярэднявечнае мастацтва, а таксама сярэднявечнае адзенне.

А яшчэ Кацярына – паэтка і мама дваіх дзетак.

Прыходзьце, будзе цікава і пазнавальна.

**Наталля ТУР.**

## Віляйчанін перамог на сусветным чэмпіянаце вальшчыкаў лесу

ВІЛЕЙКА

У Польшчы 8-11 верасня прайшоў 32 Сусветны чэмпіянат вальшчыкаў лесу. Каманда Беларусі заняла на ім першае месца.

Адзначыліся беларусы таксама ў асабовым заліку: узялі два першыя месцы. Перамог на чэмпіянаце ляснік Куранецкага лясніцтва з Вілейшчыны **Валеры Дуровіч**.

Удзел у спаборніцтвах прынялі 113 чалавек з 28 краін. Спаборнічалі яны ў пяці дысцыплінах. Сярод іх – замена ланцуга на піле, валка дрэва на дакладнасць, абрэзка сукоў і іншае.

**Аддзел інфармацыі.**

# Стадыён, паркоўкі, новая плошча

## у Вілейцы прадставілі дэталёвы праект забудовы цэнтра горада

ВІЛЕЙКА

**Ад 12 верасня пачалося грамадскае абмеркаванне праекта. Пакуль яно неактыўнае.**

А 14 верасня ў райвыканкаме народу таксама сабралася няшмат. Тут архітэктар, аўтар праекта, **Аляксей Іслямаў** прадставіў сваю працу па рэканструкцыі горада супрацоўнікам райвыканкама і жыхарам.

У сваіх межах Вілейка ўжо сфарміравалася. Таму асноўная задача праекта – эфектыўна скарыстаць тэрыторыю горада ў гэтых межах.

Аўтар прапануе зрабіць Вілейку горадам трох плошчаў. Дзве, як вядома, ужо ёсць. А яшчэ адна з'явіцца пры ўездзе ў Вілейку з Мінска.

Крыху пашыраць плошчу Свабоды. На ёй з'явяцца месцы для паркоўкі. Транспарту ў горадзе становіцца ўсё больш. Таму праблема месцаў для стаянкі актуальная для Вілейкі.

Яшчэ адна ідэя – малапавярховыя прыватныя забудовы на невялікіх, у 5-6 сотак, участках зямлі. Гэта, на думку Аляксея Іслямава, зробіць Вілейку падобнай да маленькіх еўрапейскіх гарадкоў.

Месца, дзе Пляснянка ўпадае ў Вілію, – гістарычны цэнтр горада. У гэтым месцы – самая старая вуліца. Сёння па ёй ходзіць транспарт. Але аўтар праекта плануе зрабіць вуліцу пешаходнай.

Добраўпарадкуюць прыбярэжжа Віліі. Берагі "апрануць" у камень ці бетон. Або проста зробяць насып, які засцеражэ горад ад паводкі. Цалкам рэалізаваць ідэі з прыбярэжжам не дае "Водны кодэкс". Тут ёсць жорсткія патрабаванні.

Напрыклад, на прыбярэжнай зоне можна будаваць толькі аб'екты для спорту і адпачынку. Таму ў будучым тут з'явіцца гарадскі стадыён. Удасканаляць дзіцячы пляж.

На думку аўтара праекта, добраўпарадкаванае прыбярэжжа адразу зменіць жыццё горада. Да ракі пацягнуцца людзі.

Побач з анкалагічным дыспансерам з'явіцца новы сквер. Больш ніякіх аб'ектаў тут не плануюць. Бо гэта бальнічная зона. І яна павінна быць цішай.

**У горадзе паўстануць новыя пяці- і сяміпавярховыя дамы.**

Аднак гэта не перашкодзіць касцёлу быць своеасаблівай "дамінантай" – галоўнай пабудовай, якую мы бачым пры ўездзе ў горад.

Па словах галоўнага архітэктара раёна **Галіны Кажарновіч**, рэканструкцыя амаль заўсёды звязаная з балючым пытаннем зносу прыватных дамоў. А іх яшчэ шмат захавалася побач са шматпавярхоўкамі.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Аляксей Іслямаў прадстаўляе праект плана забудовы.

Жыхарка Вілейкі **Наталля** заклапочаная тым, што ж будзе з іх дамам-лецішчам на Савецкай.

– У гэтым доме жыла бабуля майго мужа. Потым яго маці. Пасля ўласнікам стаў муж. Вядома, што яму гэты дом дарагі як памяць. Але з 1979 года нам кажуць, што дом пойдзе пад знос. Таму ўкладаць нейкія грошы ў яго добраўпарадкаванне мы не можам. Сёння там толькі косім і садзім грады. Хацелася б даведацца, што нам прапануюць, калі дом усё ж знясуць.

Але з такой няпростай сітуацыі можна знайсці выйсце. Па словах Галіны Кажарновіч, сям'я зможа атрымаць раўназначны ўчастак на вуліцы Набярэжнай.

Усе змены ў горадзе запланавалі на два этапы. Першы этап – да 2020, другі – да 2030 года.

Праект плана ляжыць у фае райвыканкама. Кожны жыхар горада можа пазнаёміцца з ім і пакінуць свае заўвагі і пытанні ў спецыяльным журнале.

Але журнал пакуль пусты.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Ячмень, пшаніца або рапс? Што ёсць у гаспадарцы ў вас?

МАЛАДЗЕЧНА, СМАРГОНЬ, ВІЛЕЙКА

Восень – традыцыйны час падвядзення вынікаў для работнікаў сельскай гаспадаркі. Што сёлета ўрадзіла найлепш? Што горш? І як усё гэта размяркоўваюць?

У гаспадарцы "Солы" на Смаргоншчыне вырошчваюць рапс, збожжа і цукровыя буракі.

Па словах галоўнага эканаміста **Ірыны Грышан**, найлепшы ўраджай сёлета на ячмень. Намалацілі 52,7 цэнтнера з гектара. На думку жанчыны, надвор'е – не самая першая прычына, ад якой залежыць добры ўраджай. Галоўнае – гэта правільныя тэхналогіі і клапатлівы догляд.

Большая часта збожжа ідзе на тое, каб выканаць дзяржзаказ. Астатняе пакінуць для гаспадаркі. З яго будуць малоць муку. Для гэтага ёсць уласны мукамольны цэх. А мука пойдзе на корм каровам.

Агранам "Хажова-Агра" **Таццяна Біцель** лічыць, што падлікі рабіць яшчэ рана. У гаспадарцы не скончылі ўборку кукурузы, бульбы, цукровых буракоў. Аднак ужо ўбранае збожжа.

А найлепшы ўраджай ў гэтым годзе быў на рапс, хаця надвор'е сёлета не спрыяла для раслінаводства: спярша – заразкі, потым – дажджы. У мінулым годзе рапс увогуле ўвесь змерз.

– А цяпер, напэўна, нам проста пашанцавала, – жартуе жанчына.

Хоць справа, вядома, не толькі ў гэтым. Падбіралі добрыя сарты, правільна даглядалі. На сённяшні дзень увесь ураджай ужо прадалі.

Рапс – універсальная расліна. Яго выкарыстоўваюць у лёгкай і цяжкой прамысловасці, у сельскай гаспадарцы. А яшчэ з рапса робяць біялагічнае паліва.

На Вілейшчыне ў гаспадарцы "Стайкі" абавязкі кіраўніка з нядаўняга часу выконвае **Наталля Лявошка**. Жанчына расказала, што сёлета тут самы лепшы ўраджай на азімую пшаніцу. Нядрэнна таксама ўрадзіла азімае трыцікале – сумесь жыта і пшаніцы.

Ураджай на азімыя заўсёды лепшы, чым на ярavыя, кажа жанчына. А яшчэ ўгнаенні для азімых былі больш якасныя.

Пшаніца ідзе на продаж. А потым у магазінах з'яўляецца ў выглядзе булак і макароны. Трыцікале пакідаюць на корм жывёле ў гаспадарцы. А частку ўраджаю набываюць лікёра-гарэлачныя прадпрыемствы.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 8.09 | 15.09 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,9536 | **1,9563** |
| Еўра | 2,1962 | **2,1961** |
| Злоты, 10 | 5,0459 | **5,0465** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,0259 | **3,0180** |
| Грыўня, 100 | 7,3043 | **7,4526** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 14.09** | | |
| Еўра | 2.1800/2.2000 | **2.1700/2.2000** |
| Долар ЗША | 1.9400/1.9630 | **1.9450/1.9600** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 7.09 | | 14.09 | |
|---|---|---|---|---|
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 149 800 | 14,98 | 149 800 | 14,98 |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | 5,85 | 58 500 | 5,85 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 31 800 | 3,18 | 31 800 | 3,18 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 70 000 | 7,00 | 70 000 | 7,00 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 800 | 4,18 | 41 800 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 120 000 | 12,00 | 135 000 | 13,50 |
| Рыс, 0,9 кг | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 25 300 | 2,53 | 25 300 | 2,53 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 13 000 | 1,30 | 13 000 | 1,30 |
| Алей "Фермер", 1 л | 24 000 | 2,40 | 24 000 | 2,40 |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | 0,66 | 6 600 | 0,66 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 16 000 | 1,60 | 16 000 | 1,60 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 38 500 | 3,85 | 38 500 | 3,85 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 17 000 | 1,70 | 17 000 | 1,70 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6 500 | 0,65 | 7 500 | 0,75 |
| Часнок, 1 кг | 63 500 | 6,35 | 64 900 | 6,49 |
| Капуста, 1 кг | 5 500 | 0,55 | 5 400 | 0,54 |
| Морква, 1 кг | 4 900 | 0,49 | 5 800 | 0,58 |
| Баклажаны, 1 кг | 12 900 | 1,29 | 12 900 | 1,29 |
| Лімоны, 1 кг | 53 000 | 5,30 | 54 000 | 5,40 |
| Апельсіны, 1 кг | 28 500 | 2,85 | 29 500 | 2,95 |
| Мандарыны, 1 кг | 24 900 | 2,49 | 39 900 | 3,99 |
| Гранаты, 1 кг | | | 59 500 | 5,95 |
| Нектарыны, 1 кг | 24 900 | 2,49 | 29 900 | 2,99 |
| Ківі, 1 кг | 37 000 | 3,70 | 34 900 | 3,49 |
| Буракі, 1 кг | 5 000 | 0,50 | 5 000 | 0,50 |
| Памідоры, 1 кг | 6 500 | 0,65 | 6 500 | 0,65 |
| Агуркі, 1 кг | 11 500 | 1,15 | 13 500 | 1,35 |
| Перац, 1 кг | 10 900 | 1,09 | 12 900 | 1,29 |
| Кавун, 1 кг | 5 000 | 0,50 | 4 500 | 0,45 |
| Дыня, 1 кг | 12 000 | 1,20 | 12 000 | 1,20 |
| Кабачок, 1 кг | 4 000 | 0,40 | 4 000 | 0,40 |
| Вінаград, 1 кг | 30 000 | 3,00 | 29 500 | 2,95 |
| Бананы, 1 кг | 20 900 | 2,09 | 19 900 | 1,99 |
| Яблыкі, 1 кг | 10 900 | 1,09 | 9 900 | 0,99 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 25 000 | 2,50 | 19 900 | 1,99 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | 1,80 | 18 000 | 1,80 |
| Масла, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг | 3 000 | 0,30 | 4 000 | 0,40 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | 2,00 | 20 000 | 2,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |

## У аварыі на Вілейшчыне загінуў трактарыст

**ВІЛЕЙКА**

Трагедыя адбылася 12 верасня каля 7:20 у Вілейскім раёне. 30-гадовы кіроўца ехаў на аўтамабілі "Фольксваген-Джэта" – прытым, не маючы права кіравання транспартным сродкам.

На 20-м кіламетры аўтадарогі Куранец-Любань-Шэметава "Фольксваген" стукнуўся ў трактар МТЗ-82 з прычэпам-бочкай. Трактар ехаў наперадзе ў тым жа напрамку, кіраваў ім 66-гадовы мясцовы жыхар.

У выніку трактар перакуліўся на праезнай частцы. Механізатар ад атрыманых траўмаў памёр на месцы здарэння.

Па факце ДТЗ распачалі крымінальную справу.

**Паводле ДАІ Мінскай вобласці.**

## Маладзечанская ДАІ шукае відавочцаў аварыі

**МАЛАДЗЕЧНА**

Здарэнне адбылося 5 жніўня каля 11 гадзін раніцы ля дома №4-а на вуліцы Палявой у вёсцы Лабачоўка.

Кіроўца мапеда, які рухаўся ў бок Маладзечна, не справіўся з кіраваннем і выехаў на сустрэчную паласу, дзе сутыкнуўся з аўтапоездам.

ДАІ просіць сведкаў і відавочцаў здарэння звярнуцца ў Маладзечанскі аддзел дзяржаўтаінспекцыі па вуліцы Тамары Дудко 1, кабінет 18. Або патэлефанаваць: (80176) **74-53-40**, **74-53-43**, **102**.

**Аддзел інфармацыі.**

## Паварочвала налева і не саступіла дарогу машыне – яны сутыкнуліся

**МАЛАДЗЕЧНА**

Аварыя адбылася 11 верасня апоўдні.

22-гадовая кіроўца ехала на "Аўдзі-80" па Вялікім Гасцінцы ў накірунку Смаргоні. Яна рухалася па крайняй левай паласе. Паварочваючы да аднаго з гандлёвых цэнтраў, не саступіла дарогу "Сітраэну", які рухаўся ў накірунку Мінска па крайняй правай паласе. Машыны сутыкнуліся.

Як патлумачыў кіроўца "Сітраэна", каб пазбегнуць сутыкнення, ён пасігналіў.

Кіроўца "Аўдзі" зазначыла, што не бачыла перашкоды справа, бо ў гэты час паварочвала іншая машына ў накірунку Лебедзеўскай.

На кіроўцу "Аўдзі" склалі пратакол.

Пра здарэнне распавёў дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**.

## Ехала 20 км/г, нечакана пачала паварочваць – як удалося пазбегнуць аварыі

**МАЛАДЗЕЧНА**

Здарэнне адбылося 11 верасня каля дзвюх гадзін дня.

43-гадовая маладзечанка ехала на машыне "Вольва" па Сухой у накірунку Лясной.

– Як кіроўца патлумачыла, рухалася яна з невялікай хуткасцю, 20-30 кіламетраў у гадзіну, – расказвае дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош**. – Перад паваротам пачала прытармажваць, уключыла левы паварот. У гэты час заўважыла, што не пачало абганяць іншае аўто.

Кіроўца машыны, які ехаў ззаду на "Мерсэдэсе", убачыўшы, што машына паварочвае, пачаў тармазіць, узяў лявей. У выніку чаго ўехаў у бардзюр, спыніўся на пешаходнай дарожцы.

Як патлумачыў кіроўца "Мерсэдэса", сапраўды "Вольва" ехала з невялікай хуткасцю, аднак паварот уключыла несвоечасова. Тым самым увяла ў зман іншых удзельнікаў руху.

На кіроўцу "Вольвы" склалі пратакол за стварэнне аварыйнай сітуацыі на дарозе.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

## У дзіцячым садку здарыўся пажар

**МАЛАДЗЕЧНА**

Выхавальнікам давялося эвакуяваць 85 дзяцей.

Здарэнне адбылося 12 верасня каля 13:40.

У дзяржурную частку пазваніла загадчыца дзіцячага садка №25 і паведаміла пра тое, што з электрашчытавой, што знаходзіцца на першым паверсе, ідзе дым.

Калі персанал садка пачуў, што спрацавала пажарная сігналізацыя, яны эвакуявалі з двухпавярховага будынка 85 дзяцей.

Прычынай задымлення стала кароткае замыканне электраправодкі.

**Паводле mchs.gov.by**



# Чатыры гадзіны ў судзе абмяркоўвалі кірзавыя боты

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Гісторыя, якая скончылася для маладзечанскага водаканала судом, адбылася ў лютым 2015 года, калі работніцы не выдалі кірзавыя боты, каб яна праз Цэнтральную плошчу аднесла дакументы ў райвыканкам.**

Гісторыя, насамрэч, сур'ёзная.

А адбылося вось што. У лютым 2015 года кантралёр водаканала, тая самая, хто ходзіць па кватэрах і правярае лічыльнікі на ваду, выправілася ў райвыканкам перадаць паперы.

Як назло, у той дзень выпаў снег. Калі жанчына праходзіла па Цэнтральнай плошчы, яна пасліznулася і ўпала. Траўма была сур'ёзная. Жанчына зламала сцягно.

Яна палічыла, што вінаваты водаканал, які не выдаў ёй для такіх шпацыраў кірзавыя боты, а не ўласная неасцярожнасць або слізкая плошча..

Тое ж самае сказалі і ў інспекцыі аховы працы, калі правялі экспертызу і прызналі, што прычынай падзення стала "незабяспечанне кірзавымі ботамі".

Палічылі шкоду, усталявалі працэнт непрацаздольнасці.

**І жанчына папрасіла праз суд кампенсаваць ёй шкоду ў памеры, увага, 320 мільёнаў недэнамінаваных рублёў.**

І вось 1 верасня гэтага года адбываецца чарговае пасяджэнне суда. У ім прымаюць удзел 11 чалавек: сама пацярпелая, яе адвакат, начальнік інспекцыі па ахове працы, работнікі водаканала, былы дырэктар водаканала і, уласна, суддзя.

Судовыя спрэчкі вакол кірзавых ботаў доўжыліся амаль чатыры гадзіны.

– Пацярпелая, вы прызнаяце тое, што прычынай падзення магла стаць ваша ўласная неасцярожнасць?

– Не. Я лічу, што вінаваты дырэктар водаканала, які не выдаў мне кірзавыя боты.

На што прадстаўнікі водаканала, у сваю чаргу, задалі пытанне:

– Ці абула б жанчына кірзавыя боты 40 памеру ўзімку для таго, каб прайсціся па горадзе і перадаць паперы па прызначаным адрасе? І затым, абыходзячы за працоўны дзень каля 30 кватэр, ці здымала б яна гэтыя боты за кожным разам?

І так чатыры гадзіны: адзін бок даказваў, што калі б на жанчыне былі тыя самыя кірзавыя боты, то падзення не было б. І тое, што водаканал павінны выконваць свае абавязкі: ёсць у інструкцыі па тэхніцы бяспекі пункцік "выдаць спецабутак", павінны выдаць.

Іншы бок заклікаў да здаровага сэнсу і спрабаваў апраўдацца тым, што жанчына ведала, што ёй павінны быць выдадзеныя боты і сама іх не забірала. І што кірзавыя боты на гумовай падэшве – гэта далёка не панацэя ад зімовых падзенняў.

У выніку доўгіх спрэчак і размоў, падчас якіх ва ўдзельнікаў судовага пасяджэння разрываліся мабільныя тэлефоны, у якіх было толькі адно пытанне: "Ты дзе?". Першага ж верасня дзеці ўдзельнікаў суда па справе кірзавых ботаў зачакаліся сваіх бацькоў з торцікамі і віншаваннямі, суддзя абвясціў, што рашэнне суда будзе агучанае другога верасня.

У 9:20 на наступны дзень суд вынес рашэнне інспекцыі па ахове працы правесці перарасследаванне і вызначыць поўны шэраг вінаватых асобаў у няшчасным выпадку.

Справа не завершаная. Працяг будзе.

**Наталля ТУР.**
**Фота babyblog.ru.**

## Змагаліся з карупцыяй – знайшлі парушэнні

**МЯДЗЕЛ**

**Работнікі пракуратуры Мядзельскага раёна працуюць па папярэджанні карупцыі на прадпрыемствах. За першае паўгоддзе 2016 года на Мядзельшчыне правялі чатыры праверкі.**

Пяць чалавек прыцягнулі да дысцыплінарнай адказнасці. Трох службовых асоб пракурор афіцыйна папярэдзіў пра неабходнасць выканання антыкарупцыйнага заканадаўства.

Высветлілі, што ў таварыствах "Сваткі" і "Занарачанскі" не афармлялі пісьмовыя абавязацельствы службовых асоб і кіраўнікоў іншых падраздзяленняў гаспадарак. Гэты дакумент трэба афармляць у пісьмовай форме. Калі яго няма, вінаватага звальняюць з працы.

У таварыстве "Будслаўскае" з работнікаў, якія сапсавалі аўтамабілі прадпрыемства, не спаганялі грошы на рамонт тэхнікі. Аўтамабілі незаконна рамантавалі за грошы гаспадаркі.

У "Сватках" і "Занарачанскім" знайшлі парушэнні ў правядзенні дзяржаўных закупак. Стала вядома, што ў "Занарачанскім" план закупак на 2015 год не складалі і на афіцыйным сайце www.icetrade.by не размяшчалі. Неабходную камісію таксама не стварылі. Таму нельга казаць пра празрыстасць дзяржаўных закупак за сродкі гаспадарак.

У санаторыі "Журавачка" галоўная медсястра пазначала ў табелі лжывыя звесткі аб правядзенні заняткаў па лячэбнай фізкультуры іншай медсястрой. Заняткі не праводзіліся. Аднак зарплату за іх работніца атрымлівала.

Бухгалтар у гаспадарцы "Мядзелаграсэрвіс" зрабіла няправільную справаздачу па жывёлагадоўлі. У выніку ў аддзел статыстыкі трапілі няправільныя звесткі.

Выканальнік абавязкаў агранома ў таварыстве "Будслаўскае" падаў у бухгалтэрыю прадпрыемства няправільныя звесткі пра выкарыстанне хімічнага прэпарата для апрацоўкі збожжа. 20 літраў прэпарата былі незаконна спісаныя.

Пра гэта расказаў пракурор Мядзельскага раёна **Іван Малафей**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Прадаць кватэру ў Маладзечне па цане мінскай

## Чаму ў горадзе сонца завышаныя цэны на жыллё?

**Свой куточак – мара любой сям'і. Аднак ці рэальна цяпер яго самастойна купіць у рэгіёне?**

Колькі каштуе квадратны метр? Чаму Маладзечна – лідар у краіне па цэнах на нерухомасць? Адказы шукаем разам.

Як адзначае ўласнік і дырэктар рыэлтарскага агенцтва ў Маладзечне **Маргарыта Баканоўская (Сушко)**, новае жыллё ў Маладзечне каштуе 1338,6 рублёў (690 долараў) за квадратны метр. Аднак, калі грошы выплачваць не адразу, а да канца будаўніцтва, цана павышаецца да 1358 рублёў (700 долараў). Усё залежыць ад таго, на які тэрмін вы бераце растэрміноўку на выплату грошай. Чым большы час на выплату, тым вышэйшая цана.

### Хочаце прадаць кватэру даражэй – рабіце якасны рамонт

– Цяпер у Маладзечне будуюць два новыя дамы: па вуліцы Машэрава і каля гандлёва-эканамічнага каледжа, – расказвае Маргарыта Баканоўская. – Большасць кватэр ужо купленыя. У першую чаргу набывалі двух- і трохпакаёвыя. Адметнасць новага жылля ў тым, што ў ім палепшаная планіроўка, павялічаны метраж. Купіўшы двухпакаёвую кватэру, гаспадары могуць зрабіць з яе трохпакаёвую альбо з дапамогай дызайнераў раздзяліць так, каб кожны член сям'і адчуваў сябе ўтульна.

Налета ў Маладзечне плануюць пабудаваць восем шматкватэрных дамоў, як мінімум два – па дзяржзаказе, паведаміў намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама **Вадзім Цар.**

Патрыманае жыллё каштуе 1164 рублі (600 долараў) за квадратны метр, калі кватэра без рамонту. Чым лепшая, тым даражэйшая.

– Даражэйшыя кватэры з добрым рамонтам і ў цэнтры, – заўважае спецыяліст агенцтва нерухомасці. – Аднак гэта не значыць, што паклеіў шпалеры, паставіў вокны пвх і рамонт скончаны. Добрым рамонтам лічыцца, калі ў кватэры якасна разведзеная электрыка, стаіць бойлер, умацаваныя трубы ацяплення, новая сантэхніка, замененыя вокны і дзверы, на сценах добрая плітка, выраўненыя сцены, ацэньваецца, наколькі якасны рамонт.

### Чатырохпакаёвыя кватэры цяпер нявыгадныя

Калі адна- і двухпакаёвыя кватэры заўсёды карысталіся попытам, то чатырохпакаёвыя – цяпер небюджэтна. Асабліва калі наступае ацяпляльны перыяд і калі ніхто не прапісаны.

– У асноўным такія варыянты набываюць шматдзетныя сем'і, – распавядае Маргарыта. – Праз гадоў дзесяць кватэры зноў з'яўляюцца на рынку нерухомасці. Дзеці вырастаюць, бацькі набываюць меншае жыллё, за выручаныя грошы купляюць маёмасць дзецям. Многія шматдзетныя сем'і набываюць прыватныя дамы – так больш магчымасцяў. Па-першае, ёсць участак, на якім дзеці могуць гуляць. Па-другое, дом можна забудоўваць уверх, каб усім хапала месца. У мужчын больш магчымасцяў рэалізавацца як гаспадару.

Сярэдняя цана дома без выгодаў – 29 100 рублёў (15 тысяч долараў). Сярэдняя цана дома з выгодамі – 48 500 рублёў (25 тысяч долараў). На цану дома ўплываюць розныя паказчыкі: месца размяшчэння, плошча ўчастка, камунікацыі, рамонт, пабудовы і іншыя.

**– Чаму ў Маладзечне цэны трымаюцца на ўзроўні мінскіх?**

– У Мінску цэны змяншаліся паступова, – адзначае Маргарыта Баканоўская. – Нават сёлета да чэрвеня яны знізіліся на 16%. Таму паніжэнне не было такім балючым. У Маладзечне цэны абваліліся раптоўна з сярэдзіны снежня і да сакавіка на 30-40%. Зразумела, што людзі былі ў шоку. Калі некалькі месяцаў таму яны набывалі аднапакаёўку па 73 720 – 75 660 рублёў (38–39 тысяч долараў), то сёння такую ж самую маглі купіць за 44 620 – 46 560 рублёў (23–24 тысячы долараў).

Нават і цяпер людзі, якія не датычыліся продажу нерухомасці, стараюцца прадаць жыллё па ранейшых цэнах, а гэта ўжо параўнальна з Мінскам. Але трэба раўняцца на сённяшнюю рэальнасць, а яна дыктуе іншыя цэны. Няма сэнсу прадаваць кватэру па завышанай цане, бо сустрэчная прапанова ніжэйшая па коштах.

**– Што паўплывала на тое, што цэны на нерухомасць пачалі зніжацца?**

– Эканамічная і фінансавая сітуацыі, павелічэнне курсу долара; войны ў краінах, якія знаходзяцца побач з Беларуссю, – расказвае спецыяліст. – Раней некаторыя людзі набывалі маёмасць для перапродажу. Калі цэны дасягнулі піку, пачалі прадаваць нерухомасць. Але колькасць прапаноў перавысіла попыт. У выніку рынак нерухомасці "прасеў".

**– Паводле статыстыкі, самае дарагое жыллё ў Мінску, Салігорску, Гродне і ў Маладзечне. З чым звязана, што Маладзечна ў пяцёрцы?**

– Маладзечна ніколі не было горадам з таннай нерухомасцю. У горадзе вельмі добрае транспартнае размяшчэнне: 60 кіламетраў да Мінска, 120 кіламетраў да Вільні. Як часам жартуюць мае знаёмыя, у Літву можна ездзіць па хлеб. Маладзечна – прыгожы і дагледжаны горад, асабліва ён пахарашэў пасля "Дажынак". Ёсць вядомыя ў краіне адукацыйныя ўстановы: музычны каледж імя Агінскага, політэхнічны, гандлёва-эканамічны і медыцынскі каледжы. Створаныя ўмовы для развіцця прадпрымальніцтва і павышэння культуры гараджан. Дадае статусу і тое, што сёлета Маладзечна – культурная сталіца. Усё гэта ўплывае на цану нерухомасці.

**Ці вырастуць цэны на жыллё?**

– Цяжка спрагназаваць, бо ўплываюць шматлікія паказчыкі. Часам цэны будуць стаяць на месцы, часам паднімацца, – разважае Маргарыта Баканоўская. – Аднак пад'ёму цэн да ранейшага ўзроўню не будзе. Ранейшага абвалу таксама не прагназуем. З часу падзення цэны на маёмасць да канца лета павялічыліся на 0,3%.

### Як рухаюцца чэргі

У 2014 годзе "РГ" пісала, якія чэргі на жыллё ў рэгіёне. Тады на Маладзечаншчыне хацелі палепшыць жыллёвыя ўмовы 24 467 чалавек. За два гады чарга стала на 11 084 чалавекі меншай. Чаму яна настолькі паменшылася, высветлім у наступным нумары.

– Сёлета на 9 верасня жыллё атрымалі 156 чалавек, – адзначае начальнік аддзела жыллёва-камунальнай гаспадаркі Маладзечанскага райвыканкама **Сяргей Бохан**. – Да канца года палепшаць жыллёвыя ўмовы 260 чалавек.

На Мядзельшчыне ў 2014 годзе на чарзе былі 1415 чалавек. Чарга скарацілася на 205 чалавек.

Паводле дадзеных Астравецкага райвыканкама, цяпер у чарзе – 603 чалавекі. Гэта на 417 меней, чым два гады таму. А вось у Ашмянскім раёне чарга паменела на 451 чалавека.

### Бацькі атрымалі кватэру праз 23 гады, мы ў чарзе – 10 255

У сям'і маладзечанкі **Валянціны Бажэлкі** чатыры чалавекі: яна, муж і двое дзяцей. У чаргу на паляпшэнне жылля сталі 26 верасня 2014 года.

– Даведацца, якія мы ў чарзе, па інтэрнэце не можам, няма такой інфармацыі, – расказвае жанчына. – Аднак такія звесткі можна атрымаць па тэлефонах, і то ў пэўныя дні. На 1 верасня 2016 года мы былі ў чарзе 10 255-я.

Як мяркуе жанчына, іх чарга прыйдзе не хутка, хаця фінансава яны б маглі будаваць кватэру з улікам ільготнага 90% крэдыту.

– Будаваць альбо набываць жыллё без ільготнага крэдыту цяпер складана – высокая крэдытная стаўка, – заўважае Валянціна. – Пакуль жывём у свекрыві, збіраем грошы на ўласнае жыллё.

Бацькі Валянціны стаялі ў чарзе з 1988 года. Праз 23 гады, у 2011 годзе, атрымалі кватэру.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**



### Факты пра нерухомасць у Маладзечне

- ✦ Не асаблівым попытам карыстаюцца кватэры па вуліцах Лясная і Моладзевая. Таму ніжэйшыя цэны.
- ✦ Набываюць часцей за ўсё кватэры ў цэнтры: на вуліцах Міру, Скарыны, Вялікім Гасцінцы. Нерухомасць тут адрознівае сярэдняя цана, сярэдняя якасць, сярэдні ўзрост.
- ✦ Кватэры без выгодаў пераважна набываюць маладыя сем'і, як стартавы капітал, паступова абуладкоўваюць, збіраюць грошы на лепшы варыянт, альбо людзі сталага ўзросту.
- ✦ Высокія паверхі не карыстаюцца асаблівым попытам – трэба высока паднімацца.
- ✦ Раней першыя паверхі былі таннейшыя. Цяпер прадаюцца лепш, чым на апошнім. У далейшым іх можна перарабіць пад магазіны.
- ✦ Дамы карыстаюцца попытам вясной, кватэры набываюць незалежна ад пары года. Такую тэндэнцыю заўважыла спецыяліст рыэлтарскага агенцтва. Зазначыла, што бывае перыяд, калі і дамы, і кватэры набываюць у роўнай колькасці.

Фота yury-polnar-ahh7.squarespace.com.

**Тыя, хто стаіць у чарзе на паляпшэнне ўмоў жылля, пільна сочаць, як рухаецца чарга. Аднак збіраюць грошы, каб хутчэй купіць альбо пабудаваць на камерцыйнай аснове.**

## Чэргі на паляпшэнне жыллёвых умоў

| Раён | Чарга па раёне | Горад | Сельская мясцовасць |
|---|---|---|---|
| Астравецкі | 603 (дадзеныя за 03.05.2016 паводле сайта Астравецкага райвыканкама) | | |
| Ашмянскі | 1032 (дадзеныя за 1.05.2016 паводле сайта Ашмянскага райвыканкама) | | |
| Маладзечанскі | 13 383 | 11 618 | 1765 |
| Мядзельскі | 1210 | 334 | 876 |

## Колькі каштуе жыллё ў Маладзечне

| Колькасць пакояў | Год пабудовы | Сярэдні метраж, кв. м. | Цана |
|---|---|---|---|
| Аднапакаёвая | 1958-1967 | 31 | 36 084 – 40 740 рублёў (18 600 – 21 000 долараў) |
| | 1970-2000 | Ад 33 | 44 620 – 46 560 рублёў (23 000 – 24 000 долараў) |
| | | 27 | 11 640 – 23 280 рублёў (6 000 – 12 000 долараў) – без выгодаў, пячное ацяпленне<br>17 460 – 25 520 рублёў (9 000 – 13 000 долараў) – ёсць каналізацыя, прыбіральня, ванна ў кватэры |
| Двухпакаёвая | 1958-1967 | 43 | 48 500 – 52 380 рублёў (25 000 – 27 000 долараў) |
| | 1970-2000 | 51 | 62 080 – 69 840 рублёў (32 000 – 36 000 долараў) |
| | 1970-2000 | 63 | 65 960 – 75 660 рублёў (34 000 – 39 000 долараў) |
| Трохпакаёвая | 80-я | 63 | 73 720 – 75 660 рублёў (38 000 – 39 000 долараў) |
| | 1995-2016 | 68-77 | 79 540 – 87 300 рублёў (41 000 – 45 000 долараў) – з вельмі добрым рамонтам |
| Чатырохпакаёвая | | 68-77 | 73 720 – 87 300 рублёў (38 000 – 45 000 долараў) – па цане трохпакаёвай |

## Свята вёскі: Нарочы 450 гадоў

ВІЛЕЙКА

**На працягу жыцця людзі адзначаюць розныя даты: дні нараджэнні, вяселлі, іншыя святы. А здараецца і такое, што чалавек святкуе дзень народзінаў таго месца, дзе нарадзіўся сам.**

Сёлета сваё 450-годдзе адзначыў аграгарадок Нарач.

Нарачанцы завуць сваю вёску Нарочай – гэта адметнае адрозненне ад Нарачы, якая на Мядзельшчыне. Мястэчка знаходзіцца на рацэ Нарач, якую жыхары ласкава называюць Нарачанкай.

Пачатак свайго існавання Нароча пачынае 25 сакавіка 1566 года.

Вёсачка Нароча знаходзілася ў складзе Маркаўскага староства. Разам з іншымі невялікімі мястэчкамі пераходзіла ва ўладанне ад адных гаспадароў да другіх, сярод якіх былі **Мікалай Нарушэвіч**, канцлер і вялікі гетман **Леў Сапега**, а з 18 стагоддзя стала належаць **Фадзею Коцелу.**

Адметная гэта мясціна сваёй царквою, карчмой і млыном.

Не абышла Нарочу і Першая сусветная вайна. Падчас жорсткіх баёў млын і мост былі спалены. У 1920-х гадах мястэчка двойчы было эпіцэнтрам баёў савецкіх і польскіх войск. А з 1921 года вёска была ўведзеная ў склад Польскай дзяржавы і ў яе межах знаходзілася да 1939 года.

Усе гэтыя звесткі вядомыя нам дзякуючы летапісу падзей, які вёў святар мясцовай Свята-Іллінскай царквы **Павел Сасноўскі.**

Сёння Нароча налічвае 270 двароў, 786 жыхароў, з іх дарослых 647, дзяцей 139. У аграгарадку ёсць агульнаадукацыйная і музычная школы, дзіцячы садок, Дом культуры, гандлёвы цэнтр, амбулаторыя, пошта, аддзяленне банка, лясніцтва. У Нарочы знаходзіцца цэнтр ААТ “Нарачанскія зоры”.

У гонар круглай даты ў вёсцы зладзілі сапраўднае свята, з віншаваннямі, узнагародамі, танцамі і гульнямі.

Распачалася праграма малебнам у царкве і хрэсным ходам да месца правядзення свята. Узначальвалі гэтыя мерапрыемствы благачынны Вілейскага благачыння іераманах **Аляксандр Шмырко** і былы настаяцель Нароцкай царквы іерэй **Вячаслаў Пяшко.**

Непасрэдна перад Домам культуры былі арганізаваныя выставы “Любі сваю Нарочу”, “Таленты нашага двара”, “Паглядзіце на саламяны цуд”, выстава дзіцячага малюнка “Малюем любімую Нарач”, фотастэнд “Калі мы былі маладыя”.

Саму праграму распачынала мясцовая вакальная група “Крыніца” песняй “Аб Нарачы”, напісанай жыхарамі вёскі **Вадзімам Шылко** (музыка) і **Валянцінай Гаранінай** (словы).

У пачатку словы прывітання і пажадання выказала старшыня Вілейскага савета дэпутатаў **Наталля Радзевіч.** Пасля яе падтрымалі дырэктар ААТ “Нарачанскія зоры” **Генадзь Кучко** і старшыня сельскага выканаўчага камітэта **Анатоль Бяганскі.**

У першую чаргу ўганаравалі самых сталых жыхароў вёскі: **Ганну Іванаўну Занкавіч**, ёй цяпер 98 год, і **Пятра Васільевіча Вянцэвіча**, якому 95 год, а таксама самага маленькага жыхара **Цімура Мамая.**

Былі адзначаныя мнагадзетныя сем’і, іх у Нарочы 15, дзе гадуюцца трое і больш дзяцей; сем’і, дзе муж і жонка жанатыя больш за 50 год – такіх у Нарочы чатыры сям’і; нарачанцы, якія ў гэтым годзе адзначаюць юбілеі.

Шмат яшчэ называлася намінацый, шмат называлася прозвішчаў. Яшчэ больш прагучала віншаванняў і пажаданняў.

Афіцыйную атмасферу вельмі ўмела і ўдала разбаўлялі артысты Нароцкага Дома культуры. Гучалі песні, жывая музыка, на скрыпцы іграла мясцовая жыхарка **Дыяна Радзевіч**, гучалі байкі, вершы. Усім, хто прыйшоў раздзяліць з аднавяскоўцамі свята, было цікава і весела. Усе, без выключэння, былі задаволеныя. У канцы свята гулялі ў розныя гульні, якія суправаджаліся смехам і радасцю вяскоўцаў.

Таксама працавалі дзіцячыя атракцыёны. Пасля афіцыйнага мерапрыемства можна было адпачыць на дыскатэцы. А вечарам, а 9 гадзіне, можна было бачыць феерверк.

Мерапрыемства адбылося дзякуючы падтрымцы **Ганны і Івана Садоўскіх, Андрэя Вахрушава, Андрэя Клюковіча** і Вілейскага райсавета дэпутатаў.

Для кожнага знайшлася забава, кожнаму было месца. Ніхто не адчуваў сябе лішнім. Мы ўсе – часцінкі сваёй Нарочы, мы – адно цэлае.

**Кацярына ПЛЁСКА,**
**настаўніца**
**Нароцкай школы.**

# Грузія – краіна кароў, тостаў і бібікалак

МАЛАДЗЕЧНА

**Сваімі ўражаннямі ад наведвання краіны гор, віна і прыгожых спеваў з чытачамі “Рэгіянальнай газеты” дзеліцца наша чытачка Ганна Кішкурна.**

– Калі вам аднойчы захочацца пабываць у краіне, дзе мора, горы і віно у адным сасудзе, то гэта Грузія, – пачынае свой расповед дзяўчына.

Менавіта таму, што Ганне і яе сястры хацелася ўсяго і адразу – выбар выпаў на Грузію.

Падарожнічалі дзяўчаты ўдзвюх.

– Адправіліся ў падарожжа мы з Вільні.

**Калі ехаць з зоны Шэнгена ў Грузію, то білеты будуць каштаваць дзесьці 120 еўра туды-назад, а на акцыях можна знайсці і танней.**



Фота забяспечана Ганнай КІШКУРНАЙ.

Ганну ў Грузіі ўразілі не толькі горы і мора, але і вялікая колькасць кароў.

Грузія падарожніц сустрэла вельмі гарачым надвор’ем пасля беларускага халоднага лета.

– Мне прыйшлося адразу здымаць маіх дзесяць кофтаў.

Першы горад – Тбілісі.

– Жылі мы ў хостэле, але для мяне ён быў вельмі дзіўны – матрац на драўляных дошках замест ложка, такі ж драўляны стол у якасці кухні.

Каштуе хостэл на адну ноч – 20 лары ( нашых 20 дэнамінаваных рублёў). Пры гэтым, як прызнаецца Ганна, умовы для жыцця там жудасныя.

У першы ж дзень падарожніцы вырашылі, што прыехаць у Грузію і не пакаштаваць традыцыйнай кухні – гэта злачынства.

– Выбар паў на хінкалі і хачапуры і, канешне ж, як жа без дамашняга віна? Гэтыя стравы можна знайсці ўсюды.

Хачапуры ў сярэднім каштуюць 6 лары (6 нашых дэнамінаваных рублёў адпаведна), хінкалі прадаюцца паштучна. Адна штука – 50 капеек.

– Самае смачнае віно мы знайшлі ў нейкай незразумелай “забягалаўцы”, каштавала яно недзе 6 рублёў на нашы грошы.

У наступныя дні дзяўчаты наведалі горад Сігнагі – мясцовыя называюць яго горадам любові. І накіраваліся да гары Казбек.

**– Там, калі мы дайшлі да адзнакі 2000 метраў над узроўнем мора, было так прыгожа, як на малюнку, і мая сястра чытала нам верш, які напісаў Пушкін, седзячы, верагодна, амаль на тым жа месцы, гледзячы на манастыр і на Казбек.**

У Сігнагі таксама жылі ў хостэле.

– Там, як і паўсюль, гаспадар пачаставаў нас віном. Дзіўна, але ў мяне склалася ўражанне, што ў Грузіі справа гонару пачаставаць кожнага госця віном.

Перадапошні наш пункт падарожжа быў горад Батумі на марскім узбярэжжы.

Гэты горад нічога не мае агульнага з астатняй Грузіяй. Ён суперсучасны: высокія шкляныя дамы, усе свецяцца агнямі. Гэта чыста курорт.

– Калі мы прыехалі ў хостэл, аказалася, што месца няма, але аднекуль тут жа набегла шмат людзей, якія прапаноўвалі ім кватэру або пакой. Але мы зрабілі больш мудра: збеглі у невялікую вёску, таксама на ўзбярэжжы, недалёка ад мяжы з Турцыяй. Што самае цікавае, нам вельмі пашанцавала з надвор’ем, хаця ўсе прагнозы прадракалі дождж і навальніцы.

Дзякуючы гаспадару хостэла, дзяўчаты трапілі на сапраўднае грузінскае застолле. Стол быў накрыты пад вадаспадам. Было шмат ежы, віна, грузінскіх песень і, самае галоўнае, грузінскіх доўгіх паэтычных тостаў, якія нязменна пачынаюцца словамі: “Высока-высока ў гарах”…

Апошні пункт падарожжа – Кутаісі.

Ведома, за адзін тыдзень шмат чаго пабачыш, але калі я запыталася ў Ганны пра яе агульнае ўражанне ад Грузіі, яна адказала:

– Каровы ходзяць паўсюль, нават у цэнтры горада. І бібіканне… Я спачатку не разумела, чаго яны адзін аднаму бібікаюць? Аказваецца, калі хтосьці абганяе, то трэба абавязкова бібікнуць.

А абганяюць там кіроўцы адзін аднаго пастаянна. Просяць прабачэння аўтамабільнымі сігналамі так, што ў прыезджых беларусаў ад гулу балела галава.

А можа, яна балела ад вялікай колькасці выпітага грузінскага віна?

**Наталля ТУР.**

## ВІНШАВАНКА

**Дарагому Казіміру Антонавічу з Маладзечна з 55-годдзем!**

*Жадаем здароўя, удачы, цяпла,*
*Каб беды-нягоды згарэлі датла,*
*Каб жыць-не тужыць да ста год даваліся,*
*Хай збудзецца ўсё, што яшчэ не збылося.*

**Ад свата, сваццi і сям'і Руткоўскіх.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-21063, 1989 г.в, светла-бежавы. Т. (8-029) 1798400.*

• ВАЗ-2163, 1990 г.в, 1,3 бензін, у добрым стане, цана дагаворная. Т. (8-044) 4654400.

• ДЭУ-Ланас, 2000 г.в, 1,5 газбензін, серабрысты металік. Маладзечна. Т. (8-029) 5659920.

• Матацыкл "Мінск". Т. (8-029) 3120150.

• Міцубісі-Спэйс Вэган, 1996 г.в, дызель, у аварыйным стане, тэрмінова, нядорага. Т. (8-029) 9490494.

• Опель-Рэкорд. Фара правая; ФВ В-3. Стойка пярэдняя. Т. МТС (8-033) 3465371.

• ФВ Т2, грузапасажырскі, 1992 г.в, 1,9Д. Т. МТС (8-029) 2557514.*

• ФВ-Гольф-4, 2002 г.в, 1,4Б, хэтчбэк, 3-дзверны, цёмна-шэры, прабег 150 000 км, 8 200 руб. Т. (8-033) 6942602.

• Форд-Мандэа, 1994 г.в, 1,8 тд, універсал, на запчасткі. Вілейка. Т. (8-044) 7129848.

• **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *





• З/часткі да ФВ-Пасат Б3. Т. Вэлком (8-044) 5177677.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Запчасткі па кузаве да Аўдзі-100, 1985 года. Т. Лайф (8-025) 9923595.

### КУПЛЮ

• **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***

• Аўтамабіль 1985-2015г. у любым стане. Т. (8-029) 2194141.*

• Аўтамабіль у любым стане, можна мікрааўтобус. Т. (8-029) 5524004.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*

• Аўто ў любым стане. Дорага! Т. МТС (8-033) 3049451.*

• Аўто, можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

• Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, колавы экскаватар, вібрапліта 500 кг, траншэекапальнік. ІП Дудзінскі П.З. УНП 600170076. Т. (8-029) 9666645.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына,9; 2/5-павярховага цаглянага дома, агульная плошча 21 кв. м. Т. (8-029) 2768629.

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, р-н "Зеніт", агульная плошча 36,2 кв.м. Т. (8-029) 3313413.*

• 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Вілейкі. Т. (8-029) 1139658.*

• 1-пакаёвая кватэра ў цэнтры Смаргоні, 2/5. Т. (8-029) 8761540.*

• 3-пакаёвая кватэра в раёне завода "Зеніт" у Вілейцы. Т. (8-029) 3346820, (8-029) 5098330.*

• 3-пакаёвая кватэра ў аг. Любань. Т. (8-033) 6362026, (8-029) 1212627.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, без рамонту, 4 паверх. Т. (8-033) 6170104.*

• 4-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, вул. Трактарная, 1 паверх 5-павярховага цаглянага дома. Т. (8-025) 5384354.*

• Гараж 6х4 м у Вілейцы ГК "Антэй". Т. (8-029) 1130550.*

• Гараж у ГБК-4, 15 м ад чыгуначнага прыпынку "Зеніт". Пліты перакрыцця, драўляная падлога, падвал на увесь гараж, уцепленыя вароты, столь падшытая. Вілейка. Т. (8-029) 7085902.

• Дом 65 кв.м, 15 км ад Маладзечна, 0,47 га (лазня, гараж). Т. (8-029) 6053766, (8-029) 6330293.

• Дом драўляны 74 кв. м на хутары ў в. Свяйцілавічы Смаргонскага р-на Гродзенскай вобласці, вялікі сад, побач лес, возера. Т. Вэлком (8-029) 1110563, (8-01771) 27032.*

• Дом драўляны ў в. Гародзькі Валожынскага р-на. Участак 21,5 сотак. Падвал 17 кв.м. Агульная плошча 63 кв. м. У двары калодзеж. Т. (8-044) 4586050, (8-044) 4586051.*

• Дом драўляны ў Мядзеле з уцепленай мансардай. Усе цэнтральныя камунікацыі. Гаспадарчыя пабудовы. Участак 8 сотак. Т. (8-029) 1900167.*

• Дом з усімі выгодамі на беразе возера. Маладзечна. Т. (8-029) 9880312.

• Дом у в. Крывое Сяло Вілейскага р-на. Т. (8-033) 6036598.*

• Дом у в. Любань. Т. МТС (8-033) 6026288.*

• Дом у Маладзечне; выгоды, газ, гараж. Т. (8-029) 2608541.*

• Дом у Радашкавічах па вул. Савецкай, 85. Ёсць газ, электрычнасць, вада, гаспадарчыя пабудовы. Агульная плошча 70 кв.м. Участак 16 сотак. Т. (8-025) 7743329.*

### ЗДАМ

• Міні-кафэ па вул. Ф. Скарыны ў Маладзечне. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977. Т. (8-029) 5551515.*

### НАЙМУ

• 1-пакаёвую кватэру ў Вілейцы, можна дом альбо паўдома. Парадак абяцаю. Т. (8-01771) 78672.





**Тэлефонныя коды** гарадоў рэгіёну:

| | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

• Музычнае суправаджэнне юбілеяў ,вяселляў, карпаратываў. Т. (8-0176) 546329, (8-029) 1444277, (8-029) 7684394.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

• Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Абітурыент. Руская і беларуская мовы. ЦТ. УНП АВ 4449889. Т. (8-033) 3763969.*

• Абшыўка дамоў сайдынгам, блок-хаўсам, вагонкай. Усе віды дахавых работ, фундамент, кладка, падшыўка, вадасцёчка. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клімовіч С.В. УНП 691296995. Т. (8-029) 3297170, (8-033) 3350723.*

• Агароджы з профнасцілу,штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Алмазнае свідраванне бетону. ІП Карабухін А.А. УНП 191494723. Т. (8-029) 3267899, (8-033) 6032254.

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду, нафту, газ. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450. Т. (8-029) 1287878.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Дах, у тым ліку рамонт, дапамагу ў выбары і дастаўлю матэрыял. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*







## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*

# Адкрыць адкрытае

**“Замэчак. 985. Заслаўе”**

Мой пляменнік, адчытаўшы лекцыі студэнтам, вырашыў адпачыць на выхадных у Навасёлках Дубраўскіх. Для гэтага сеў на электрацягнік Мінск-Маладзечна і... задрамаў.

Прачнуўшыся праз паўгадзіны, каб зразумець, дзе знаходзіцца і які наступны прыпынак, уключыў на смартфоне функцыю навігатара.

На экране раскрылася тапаграфічная карта наваколля. З левага боку па ходу руху электрацягніка размяшчалася размерам са стадыён узвышша-гарадзішча, аблепленае катэджамі, якія “зляцеліся” як мухі на мёд да гэтай гары.

Прыехаўшы да нас, пляменнік запытаў у мяне: “Вось ты кожны дзень ездзіш на працу ў Мінск і праязджаеш міма Заслаўя. А што там за ўзвышша перад самай аб’язной дарогай Дзяржынск-Заслаўе, калі ехаць на электрычцы з боку Мінска?” І я, як той студэнт, што недавучыў прадмет, паплыў.

Гістарычны цэнтр знаходзіўся з правага боку. На месцы разбуранага замка размяшчаецца старажытны праваслаўны храм. Непадалёк быў добра бачны аднаўлены каталіцкі храм.

А ў нізку, насупраць вакзала для турыстаў, асабліва расійскіх, знаходзяцца стары млын, свіран, кузня, хата перавозчыка. І нядаўна абсталяванае прыгожае месца для адпачынку. А вось з боку вакзала знаходзіцца новы жылы горад. І ўсё.

Але хутка знайшлася падказка-шпаргалка: на паліцы ў доме ляжыць тапаграфічная карта “Заслаўе і наваколле” выдавецтва 2011 года. І я адчуў сябе адным з персанажаў на выяве на кафлі, што была знойдзеная ў вёсцы Гарадок Маладзечанскага раёна на месцы разбуранага замка.

Яна нейкі час знаходзілася ў экспазіцыі музея тут, у Заслаўі. На ёй трое паляўнічых селі адпачыць і падсілкавацца. А за іх спінамі заяц, на якога яны доўга і безвынікова палявалі, смяецца аж заходзіцца і строіць ім нават рожкі.

На гэтай адноснa новай карце тыражом у 3000 экзэмпляраў было выразна абазначанае гэта месца гарадзішча з назвай “Замэчак”. І тут жа на карце ішла тэкставая гістарычная даведка. Такая незвычайная назва гарадзішча ўзятая, хутчэй за ўсё, у старажытных летапісах.

І менавіта гэта месца мае дачыненне да непакорных **Рагнеды** і **Ізяслава**. І для іх у 985 годзе князь Уладзімір узвёў замак – горад Замэчак. І адсюль ідзе адлік заснавання горада Заслаўе. Ён, як і Полацк, з’яўляецца самым старажытным горадам Беларусі.

А ўжо каля 11 стагоддзя цэнтр змясціўся туды, дзе ён знаходзіцца цяпер. І гэта даказалі нашы вядомыя гісторыкі і археолагі.

Гісторыя горада цесна звязаная і з Вялікім Княствам Літоўскім. Лёс Рагнеды і яе сына Ізяслава ў нейкай ступені паўтарыў звергнуты братамі і сасланы сюды вялікі князь ВКЛ **Яўнут**. Ад яго пайшоў вялікі род князёў Заслаўскіх. Уладарамі Заслаўя быў і вядомы род Глябовічаў. Працаваў тут знакаміты асветнік **Сымон Будны**.

**Часта развіццё падзей адбываецца так, што іх супадзенне можна прыпісаць містыцы.**

Пасля таго, як я, здаецца, нешта для сябе ўдакладніў наконт Замэчка, на другі дзень, едучы на працу ў Мінск, насупраць мяне сеў мой зямляк **Уладзімір Русецкі**, які жыў у Мінску, але на пенсіі вярнуўся ў Дубравы. Пад’язджаючы да таго месца, дзе знаходзіцца Замэчак, я, як ужо дасведчаны, пачынаю яму пра ўсё расказваць.

На што атрымліваю безапеляцыйны і без усялякай дыпламатыі адказ: “Ты тут мне будзеш расказваць. Гэта ж я, калі працаваў у Заслаўі кіроўцам у камунальнай гаспадарцы, на 1000-годдзе горада вёз з Мінска апрацаваны камень для ўстаноўкі памятнага знака”.

І што тут пасля гэтага скажаш. І, пэўна, не я адзін, хто кожны дзень праязджае міма і глядзіць у адзін бок, дзе гістарычны цэнтр. А аказваецца, трэба глядзець яшчэ і ў другі.

Цяпер Заслаўе спадарожнік Мінска. Заціснутае паміж дзвюма кальцавымі, што быццам арбіты апаясалі сталіцу. Але, пэўна, у Заслаўя ёсць і свая арбіта, што гарантуе яму доўгае і слаўнае існаванне. У горадзе ёсць “замэчак”.

**Іосіф ПАЎКАЛАС,**
**вёска Навасёлкі-1**
**Маладзечанскага раёна.**

● ЗНАРОК НЕ ПРЫДУМАЕШ

# Паспадзявалася на сяброў

**У Тані бацькі жылі ў вёсцы, трымалі гаспадарку – свіней, кароў, таму неабходнасці купляць мяса ў краме не было. А як заколюць добрую свінню, дык хоць і падзеляць на часткі, але ёй даставалася нямала.**


Фота dymontiger.livejournal.com

Як гэта не нашы рабрынкі?

А калолі ранняй восенню, пасля пад Каляды і вясной. Бывала, што нават і летам свежынай ласаваліся.

А вось дзе пасля дзецьмяса – праблема. Быў у яе невялікі маразільнік, але заўсёды быў забіты нейкімі прадуктамі.

У чарговы раз прывёзшы мяса, папрасіла яна сяброўку Галю, каб тая на невялікі час паклала рабрынкі ў свой маразільнік. Тая пагадзілася, бо ў яе маразільнік вялікі, вольнае месца ёсць. Хаця яна таксама прывозіла з вёскі, але не так шмат.

– Добра, хай ляжыць, калі трэба – забярэш, – сказала Галя і паклала пакет мяса. А пасля і забылася пра яго.

Праз нейкі час, перабіраючы ў мазгах, што зварыць есці, палезла ў маразільнік і наткнулася на мяса.

– Ой, гэта ж мяса ў мяне ёсць, звару боршч ды яшчэ і рабрынкі патушу з бульбай, – узрадавалася Галя і тут жа прыступіла да работы. Як гэта я забылася, што мяса ёсць у маразільніку.

Наварыла яды адзін раз, пасля другі і нават на трэці раз хапіла. Карацей, з’елі чужое мяса і нават не ўспомнілі, што гэта не іхняе.

Месяцы праз тры ці нават чатыры прыязджае Таня і кажа, што хоча забраць сваё мяса. І тут Галю як жарам апякло: “Гэта ж мы з’елі яе мяса, як гэта я магла так забыцца, а яшчэ думала, што гэта маё”. Галя не ведала, што казаць і што рабіць. Яна ёй прапаноўвала адкупіць ці пасля аддаць. Але тая даравала ёй, сказаўшы, што раз з’елі, то хай будзе на здароўе. Што ўжо тут зробіш, не было б горшай бяды.

Праз нейкі час маці выдзеліла Тані чарговую порцыю мяса. Запакавала свой маразільнік, месца зноў не хапіла. Тады яна папрасіла ўжо другую сяброўку, Наташу, пакласці хоць паляндвіцу ў свой. Кажа: “Не хачу саліць, хай будзе свежанькая”.

Муж Тані, ведаючы, што мяса з’елі сябры, як толькі вызвалілася месца ў маразільніку, вырашыў забраць сваё. Перажываў, што і гэта могуць з’есці. Прыйшоў да Наташы, а яе якраз не было дома, быў муж. Той кажа, што добра, забірай, і аддаў нешта запакаванае. А сам праз нейкі час размарозіў паляндвіцу, нарабіў адбіўных, сам наеўся, дзяцей накарміў і пакінуў жонцы, як з работы прыйдзе.

Прыходзіць Наташа, а муж ёй раз на стол смачную яду. Тая, а дзе ты ўзяў мяса, купіў ці што?

– Як купіў, у маразільніку.

– Гэта ж не наша, – закрычала Наташа. – Гэта ж Таня паклала. Што я ёй цяпер скажу.

– Дык я ж аддаў ім іхняе.

– Гэта было не іхняе, ты рэбры аддаў, а паляндвіца іхняя.

Бедавалі і смяяліся ўсе адначасова. Але Таня вырашыла больш не насіць па чужых маразільніках мяса. Лепш перапрацаваць, зрабіць кілбасы, тушонкі ці яшчэ што. Дома яно ёсць дома, не прападзе.



Марыя **БЕРАСНЕВА**
beresneva.maria@gmail.com

## Служба 104 інфармуе

У наш час газ з’яўляецца незаменным памочнікам у кожным доме. Аднак трэба ведаць, што гэта не толькі зручны, эканамічны від паліва, але пры няправільнай эксплуатацыі яшчэ і вельмі небяспечны.

У сувязі з паніжэннем тэмпературы паветра павялічваецца верагоднасць абмярзання аголоўкаў комінаў і вентыляцыйных каналаў для адводу прадуктаў згарання ад газавых праточных воданагравальнікаў, ацяпляльных катлоў і апаратаў. Штогод на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь рэгіструюцца выпадкі атручэння людзей чадам.

Пры згаранні газавага паліва пры недастатковым паступленні паветра (закрытая фортка, няспраўная вентыляцыя) у выніку няпоўнага згарання выдзяляецца угарны газ, які пры рабоце газавага ацяпляльнага абсталявання ідзе ў спецыяльныя дымавыя каналы (коміны). Пры іх няспраўнасці прадукты няпоўнага згарання могуць трапляць у памяшканне, дзе ўстаноўленыя газавыя прыборы. У выніку гэтага можа адбыцца атручэнне угарным газам, чадам. Чад у адрозненне ад бытавога газу не мае паху і з’яўляецца хуткадзейнай атрутай.

Атруціліся ўгарным газам трое чалавек па вуліцы 2-й Шчорса, кватэра 43 у Мінску. Расследаванне ўстанавіла, што на кухні стаіць газавы воданагравальнік і варачная панель. Дзверцы прачыснoй кішэні на дымавым канале для адводу прадуктаў згарання ад газавага воданагравальніка не забяспечылі герметычнасць закрыцця.

У памяшканні кухні адсутнічала натуральная вентыляцыя, бо ў вентыляцыйны канал ўмантаваная электравыцяжка ад варачнай панелі, адсутнічалі падрэзы дзвярэй, на вокнах устаноўленыя шклопакеты. Прымусова адключаны датчык цягі ў газавым воданагравальніку. Пры рабоце выцяжнога вентылятара і праточнага воданагравальніка ў памяшканні кухні і сумешчаных памяшканнях стваралася разрэджанне і, як вынік, у коміне ўзнікала зваротная цяга. А так як датчык цягі ў воданагравальніку быў адключаны, воданагравальнік працягваў працаваць і прадукты згарання паступалі ў памяшканне кухні, што і прывяло да атручэння.

**Нагадваем, што наяўнасць у паветры ўсяго 1% чаду – смяротная канцэнтрацыя для чалавека.**

У прадуктах згарання ўтрымліваецца вадзяная пара, якая кандэнсуецца на халодных паверхнях коміна. Зімой гэта можа прывесці да абмярзання аголоўкаў комінаў і вентыляцыйных каналаў, іх закаркоўвання і, як вынік, – пранікнення чаду ў памяшканне.

**Каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў, нагадваем:**

☞ коміны і вентыляцыйныя каналы неабходна перыядычна правяраць, а зімой рэгулярна аглядаць аголоўкі названых каналаў для прадухілення іх абмярзання;

☞ коміны і вентыляцыйныя каналы належаць перыядычнай праверцы і прачыстцы:

**ацяпляльнага газавага абсталявання** – незалежна ад матэрыялу, з якога яны выраблены, – перад ацяпляльным сезонам.

**праточных газавых воданагравальнікаў** – у залежнасці ад матэрыялу, з якога яны выраблены: цагляныя – не радзей за адзін раз у тры месяцы; азбацэментныя, ганчарныя, стальныя, а таксама зробленыя са спецыяльных блокаў гарачаўстойлівага бетону – не радзей за адзін раз у год.

Уладальнікі жылых дамоў і кватэр, дзе ўстаноўленае вышэйзгаданае газавае абсталяванне, абавязаныя выклікаць прадстаўніка спецыялізаванай арганізацыі для праверкі стану комінаў і вентыляцыйных каналаў. Атрымаць акт, які пацвярджае іх спраўнасць;

❖ забараняецца уключаць газавыя ацяпляльныя катлы і воданагравальнікі пры няспраўнай аўтаматыцы бяспекі і пры адчуванні



Пільна сачыце за бяспекай газавага абсталявання.

паху газу ў памяшканні;

❖ перад распальваннем катла ці воданагравальніка неабходна абавязкова праверыць наяўнасць цягі ў коміне (вентыляцыйным канале);

❖ памяшканне, у якім устаноўленыя газавыя прыборы, павінна рэгулярна праветрывацца;

❖ забараняецца устанаўліваць у памяшканні топачнай душавыя кабіны, ванны, санвузлы;

❖ забараняецца пакідаць без нагляду ўключаную газавую пліту;

❖ забараняецца сушыць рэчы над полымем газавай гарэлкі;

❖ забараняецца карыстацца газавым абсталяваннем, якое эксплуатуецца больш за 20 гадоў.

**За парушэнне “Правілаў карыстання газам у побыце”**, пры адсутнасці адпаведных актаў праверак комінаў і вентыляцыйных каналаў газазабеспячэнцкая арганізацыя мае права адключыць падачу газу спажыўцу.

Адказнасць за няспраўны стан газавага абсталявання, вентыляцыйных і дымавых каналаў ад газавых катлоў і газавых воданагравальнікаў, за парушэнне патрабаванняў бяспекі пры карыстанні газавым абсталяваннем ускладаецца на наймальніка або ўласніка жылых памяшканняў і дамоў.

Паважаныя абаненты, ніколі не грэбуйце правіламі бяспекі. Паклапаціцеся пра захаванне свайго жыцця і жыцця сваіх родных.

ВУ “Маладзечнагаз”. УНП 100008077

# Быў час, быў дзень, была эпоха...

**Заканчваем знаёміць чытача з выбранымі фрагментамі ўспамінаў гісторыка Міхаіла Філістовіча, які доўгі час працаваў на Вілейшчыне і Маладзечаншчыне, асабіста ведаў многіх асоб, якія рабілі гісторыю.**
*** Беларуская мова і ў Плоцку выратуе.**
*** Як на мэблевай фабрыцы ў Маладзечне немцаў прымалі.**



Фота забяспечана Міхаілам ФІЛІСТОВІЧАМ.

**1977 год. Маладзечанскае музвучылішча, цяпер музычны каледж. Другі злева народны артыст СССР Генадзь Цітовіч, трэці – народны артыст СССР Віктар Роўда. Крайні справа аўтар публікацыі Міхаіл Філістовіч.**

### Першы чужаземец, першая “заграніца”

Першага чужаземца выпадкова сустрэў па дарозе ў школу ў 1956 годзе. Насустрач ішоў высокі ваенны ў незнаёмым афіцэрскім мундзіры, такім, што не звярнуць увагу было немагчыма. І якое маё было здзіўленне, калі я прыйшоў дамоў і ўбачыў за накрытым сталом свайго бацьку і таго самага афіцэра.

Аказалася, гэта бацькаў стрыечны брат **Іван Антонавіч Філістовіч**. Іх маці былі роднымі сёстрамі. Разлучыў братоў верасень 1939 года. Бацька вярнуўся ў Савецкую Беларусь, а той застаўся на польскім баку, адкуль была жонка. Даслужыўся да палкоўніка Генеральнага штаба Войска Польскага, меў кватэру ў цэнтры Варшавы на Маршалкоўскай.

Потым двойчы давялося пабываць у Польскай Народнай Рэспубліцы.

Першы раз турыстам у крызісны 1980 год. Заўважыў тады, што 1 верасня, дзень, калі на краіну напалі немцы ў 1939 годзе, усе палякі прышпільваюць на пінжакі чорныя стужкі. У нас такой традыцыі няма. Не мог паверыць, што могуць быць пустымі паліцы ў галоўным варшаўскім універмагу. Могуць! І ў нас такое было ў 1990 годзе.

Галоўны транспарант, які сустракаўся ў гарадах і на дарогах: партрэт Герэка і надпіс “Палякі ўсё могуць!” Далёка не ўсё! Раніцай у Кракаве быў здзіўлены тым, як многа людзей тоўпіцца ў чарзе ля газетнага кіёска. Аказалася, што вечарам змяніліся кіраўніцтва краіны. Зразумеў тады, што значаць сродкі масавай інфармацыі ў пераломныя моманты!

Другі раз быў у Польшчы ў тыднёвай службовай камандзіроўцы ў 1987 годзе падчас святкавання 70-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі ў рамках сяброўскіх адносінаў Мінскай вобласці з Плоцкім ваяводствам ПНР. У “брыгадзе” быў пісьменнік **Іван Чыгрынаў** і народны артыст СССР **Расціслаў Янкоўскі**. Палякаў цікавіла тады наша “перабудова”, але якія надзеі яны мелі з яе заканчэннем, можна толькі здагадвацца? Мяркую, што такія, як і ў 1917 годзе з рэвалюцыяй: вырвацца з расійскай, а зараз савецкай арбіты. І тады, і зараз ім гэта ўдалося.

**Запомнілася выступленне ў польскай вайсковай часці. Я нядрэнна разумею польскую мову, але без перакладчыцы выступаць не рызыкнуў. Нечакана падбадзёрыла рэпліка з залы: “А вы гаварыце па-беларуску, мы ўсё зразумеем”.**

Перайшоў на сваю родную, і сапраўды поўны кантакт!

Быў узаемны абмен дэлегацыямі і з польскага боку. Па традыцыі апошні дзень перад адбыццём прысвячаўся закупкам сувеніраў. На гэта ў канверце давалі кожнаму па 300 рублёў.

Вадзіцелі, што вазілі чужаземцаў па мінскіх магазінах, гаварылі, што лёгка абслугоўваць палякаў: купілі два электрычныя прасы, пачак натуральнай кавы і гатовы. Не тое, што немцы: у іх дома ўсё ёсць, таму выбіраюць, выбіраюць тавары; возіш іх, возіш…

### Немцы на мэблевай

У ГДР усё было. Фарпост сацыялізму ў Еўропе! Меў магчымасць у гэтым пераканацца, калі ў 1984 наведаў гэту краіну ў рамках сяброўскіх адносінаў Мінскай вобласці і Патсдамскай акругі Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі.

Прыняў удзел у міжнародным сімпозіуме аб перспектывах сацыяльна-палітычнага развіцця ўсходнееўрапейскага сацыялістычнага лагера. Наведаў месца правядзення 17 ліпеня-2 жніўня 1945 года Патсдамскай канферэнцыі кіраўнікоў трох дзяржаў-пераможцаў гітлераўскай Германіі: І.В. Сталіна, Г.Трумана і У. Чэрчыля, Трэптаў парк з помнікам савецкаму салдату з дзяўчынкай на руках, Палац рэспублікі ў цэнтры сталіцы ГДР непадалёку ад парушанай потым сцяны.

Гэты сучасны будынак са шкла і бетону адыгрываў ролю “агітпункта” для Заходняга Берліна: бясплатны ўваход, глядзельныя залы, кегельбан, памяшканні для іншых гульняў. Пры ўваходзе – зімовы сад, у якім убачыў негра, які лагодна разлёгся на канапе. Міжволі падумаў: як доўга немцы будуць цярпець такое? Пасля аб'яднання Германіі палац хацелі знесці, каб выкарчаваць усякі напамін аб ГДР пад пратэктаратам СССР, але здаровы сэнс узяў верх.

Канешне, нам прыемна і зручна было, што на галоўным чыгуначным вакзале Берліна, у буйных магазінах даводзілі інфармацыю да наведвальнікаў і па-руску. Перавалка рускамоўных там была значная. Адна група савецкіх войскаў і іх сем'і, што значылі!

**У гарадку, дзе быў штаб групы савецкіх войскаў, сказалі аб дзвюх звычках, якія прышчапілі нямецкім афіцэрам нашы: піць з горла і на паляванні страляць па ўсякай жыўнасці, што бачыш.**

Не думаю, што руская мова і гэтыя “закіды” вельмі падабаліся немцам. Але трэба было цярпець – расплата за 1941-1945 гады.

Летам 1972 года здарылася небывалае: у горад на аб'яднанне “Маладзечнамэбля” на цэлы тыдзень з мэтай знаёмства і абмену досведам з ГДР прыязджае дэлегацыя з мэблевага камбіната “Нойцэр”.

Першы сакратар гаркама партыі **Генадзь Георгіевіч Барташэвіч** быў вельмі заклапочаны тым, каб усё было арганізаванае найлепшым чынам, нічога з гасцямі непрыемнага не здарылася, тым больш, што будуць жыць за горадам на дачы сакратнага тады завода “Спадарожнік” у лесе пад Вілейкай.

Ён паклікаў мяне і адкамандзіраваў быць неадступна з дэлегацыяй, яго “вушамі” і “вачамі”, калі спатрэбіцца, дапамагаць генеральнаму дырэктару аб'яднання кандыдату эканамічных навук **Георгію Іванавічу Ліпаўку**, пры неабходнасці – падключаць самога першага. Да гэтага не дайшло.

Спачатку нямецкія госці трохі касавата паглядалі на мяне, думалі што з КДБ, але калі даведаліся, хто я і для чаго з імі, – адносіны хутка перайшлі ў сяброўскія. Паказалі ім Мінск, накармілі ў рэстаране “Патсдам”, Хатынь, Курган Славы, возера Нарач. Перакладчык быў наш, мой добры знаёмы **Васіль Цар**. Ён восем гадоў працаваў у ГДР і ФРГ, дасканала ведаў нямецкую мову. Падчас пераездаў сядзеў побач, у размовах са мной забаўляў даволі смелымі байкамі пра нас і немцаў.

Я палічыў нялішнім перасцерагчы: а вось хто-небудзь разумее рускую? Вася запэўніў, што няма такіх, ён бы “раскусіў”. І ўсё ж “раскусіў” я! Здарылася гэта на сустрэчы з Героем Сацыялістычнай Працы **Уладзімірам Міхайлавічам Калачыкам**. Пасля наведвання калгаса “Светлы шлях” была гутарка ў кабінеце старшыні, потым вячэра ў сталоўцы.

Калачык меў вялікі досвед прымаць розных гасцей. Былі багаты стол з “прымусам”, песні, музыка, дайшло да танцаў. Нехта захацеў “дамскі вальс”, і мяне, які трымаўся “за кадрам”, запрасіла на яго ў гадах ужо паўнаватая немка.

Неяк трохі рызыкоўна я закруціў яе ў вальсе, за што папрасіў у партнёркі прабачэння. А яна мне ў адказ на рускай мове: “Усё ў парадку! Не трэба прабачэння!” – А-а-а, фраў Эльза знае рускую! Адкуль? Расказала, што пасля вайны ў іх двары на пастоі былі савецкія салдаты, ад іх яна і навучылася разумець рускую мову.

**Міхаіл ФІЛІСТОВІЧ,**
**кандытат гістарычных навук.**

**Пра аўтара. Міхаіл Філістовіч**, кандытат гістарычных навук. Нарадзіўся ў 1940 годзе у в. Рэдзькавічы на Вілейшчыне. У 1963-1982 гг. працаваў у адукацыі і парторганах Вілейшчыны, Маладзечаншчыны. У 1989-1991 гг. – інструктар, загадчык сектара ЦК КПБ. З 1995 г. – у вышэйшых кантрольных органах Беларусі. Жыве ў Мінску.

## КАЛЯНДАР

### 16 ВЕРАСНЯ

**70 гадоў** з дня нараджэння Сяргея Законнікава (1946), беларускага паэта, лаўрэата Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова, Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы.

**Міжнародны дзень аховы азонавай абалонкі.**

**Міжнародны дзень міру.**

### 17 ВЕРАСНЯ



Фота svaboda.org

**1912 год**. Нарадзіўся Максім Танк (сапр. Яўген Скурко; в. Пількаўшчына, цяпер Мядзельскі раён), паэт, грамадскі дзеяч, акадэмік.

**1949 год.** Нарадзіўся Генадзь Карпенка, беларускі навуковец і палітык. Скончыў Беларускі політэхнічны інстытут. У 1972-1983 – стажор-даследчык, інжынер, старэйшы інжынер, загадчык групы, старэйшы навуковы супрацоўнік Інстытута ядзернай энергетыкі АН БССР. Загадваў аддзелам Беларускага НДІ парашковай металургіі, у 1987-1990 – дырэктар Маладзечанскага завода парашковай металургіі. У 1991-1994 – старшыня Маладзечанскага гарвыканкама. Памёр 6 красавіка 1999 года.

### 19 ВЕРАСНЯ

**25 гадоў** назад (1991) Вярхоўны Савет Беларусі прыняў пастанову аб змене назвы Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі на Рэспубліку Беларусь. Дзяржаўным гербам была зацверджаная “Пагоня”, а дзяржаўным сцягам – бела-чырвона-белы сцяг.

### 20 ВЕРАСНЯ

**70 гадоў** таму (1946) у Маладзечне створаны аўтапарк №2.

### 21 ВЕРАСНЯ

**215 гадоў** назад (1801) утвораная Гродзенская губерня (існавала да 1921 г.).

### 22 ВЕРАСНЯ

**35 гадоў** таму (1981) у вёсцы Яцкава Валожынскага раёна адкрыўся санаторый-прафілакторый “Налібоцкая пушча”.

**1576 год**. 440 гадоў таму ўпершыню ў пісьмовых крыніцах згадваецца вёска Турэц.

**1606 год**. 410 гадоў таму ўпершыню ў пісьмовых крыніцах згадваецца вёска Вязавец.

**1711 год**. Маладзечна перайшло ва ўладанне князёў Агінскіх.

**1811 год**. Пачало сваю дзейнасць Маладзечанскае шляхецкае павятовае вучылішча.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

# Дапамагала мова рухаў: сямікласнікі з Маладзечна вучылі нямецкіх школьнікаў беларускім танцам

МАЛАДЗЕЧНА

**Вучні, настаўнікі і бацькі з нямецкага горада Гёцінгена на тыдзень прыехалі да сваіх сяброў з маладзечанскай школы №5.**

Педагогі **Моніка Шліпер** і **Сабіна Кляйнберг** у Беларусі не першы раз. Заўважылі, што ў гарадах стала шмат зеляніны і больш людзей. А вось маладзечанцы па-ранейшаму гасцінныя. Сяброў з Германіі прымаюць у сем'ях настаўнікаў і вучняў пятай школы, радуюць цікавымі мерапрыемствамі.

Сярод іх – майстар-клас па беларускіх народных танцах. Яго зладзілі ў гімназіі-каледжы мастацтваў вучні сёмага харэаграфічнага класа са сваёй настаўніцай **Галінай Курыловіч**.

Трасуха, крутуха, весялуха, полька з прысюдамі і полька на дзве нагі. Госці з Германіі цёпла ўспрымалі ўсе беларускія танцы. Пасля кожнага яны шчыра апладзіравалі і крычалі зразумелае ўсім "брава!" і "супер!".

Потым прыйшоў час і немцам паспрабаваць сябе ў беларускіх народных танцах. Сямікласнікі запрасілі да сябе нямецкіх вучняў і настаўнікаў і паказалі ім самыя простыя рухі.

Атрымлівалася не адразу. Адным не хапала вытрымкі і фізічнай падрыхтоўкі, другім – ведання моў. Тлумачылі па-руску, па-англійску. У зусім складаных выпадках ратавала мова жэстаў.

Полечку трасуху нямецкія і беларускія школьнікі выканалі сумесна.

– Танцы для гасцей мы не вучылі спецыяльна, – расказала настаўніца харэаграфіі. Вучні танцуюць з першага класа. У іх рэпертуары шмат беларускіх танцаў, бо гэта прадугледжана праграмай. Проста з усіх мы выбралі самыя цікавыя і яркія.

Па словах гасцей з Германіі, усе народныя танцы крыху падобныя паміж сабой. Беларускія і нямецкія таксама. Адзінае, свае народныя танцы немцы часцей танцуюць у крузе.

Танцоры-сямікласнікі прызналіся, што вучыць харэаграфіі нямецкіх школьнікаў ім было нескладана.

– Мова танца зразумелая ўсім, – падтрымала сваіх вучняў Галіна Курыловіч.

**Аксана ЯРАШОНАК.**





Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Ох, няпростыя гэтыя беларускія танцы.




Фота vk.com.

Ангеліна Лазар з Вілейкі – студэнтка Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта.

# Медыцына, права, міжнародныя адносіны: якія спецыяльнасці абралі 100-бальніцы

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА, СМАРГОНЬ

**"Пачатак новага і, думаю, цікавага шляху" – напісала на сваёй старонцы "Укантакце" вілейчанка Ангеліна Лазар. Сёлета дзяўчына скончыла вілейскую гімназію №2 і здала тэставанне па рускай мове на 100 балаў.**

Як склаўся лёс Ангеліны і іншых стабальнікаў нашага рэгіёна?

Ад 1 верасня выпускніца другой гімназіі стала студэнткай Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта. Яшчэ са школы яна зацікавілася хіміяй і біялогіяй. Тады і задумалася пра прафесію доктара. Зразумела, што хоча дапамагаць людзям, дарыць ім надзею.

– Пачуццё ад таго, што ты дапамог камунебудзь, – самае лепшае з усіх пачуццяў на свеце, – кажа студэнтка.

Ужо з першых дзён Ангеліна зразумела, што вучыцца будзе цяжка: ад ранку да ночы, ад панядзелка да панядзелка. За пропуск лекцыі – адпрацоўка, пропуск практычных занятkaў – рэч увогуле немагчымая.

Навучання па падручніках – мала. Трэба хадзіць у анатамічныя пакоі, разглядаць косткі і розныя органы. Часу на асабістыя інтарэсы амаль няма. Аднак гэта кампенсуецца вялікай цікавасцю і пазнавальнасцю вучобы.

З'явіліся клопаты, звязаныя са зменай калектыву, з жыццём без бацькоў. Але з гэтым рана ці позна сутыкаюцца ўсе.

Дзяўчына задаволеная сваім выбарам. Спадзяецца быць добрым доктарам і, вядома, чалавекам.

Выпускніца смаргонскай школы №7 **Лізавета Скробат** сёння студэнтка БДУ. Школу яна скончыла з залатым медалём. А вынік 100 балаў атрымала на тэставанні па рускай мове. Факультэт міжнародных адносін у вядучым універсітэце краіны Ліза выбрала нездарма. Лічыць, што тут яна атрымае добрую адукацыю, а пасля знойдзе прэстыжную работу. Кажа, што вучыцца нялёгка. Заняткі ад 8 гадзін раніцы да 15 - 16 гадзін. Жыць самастойна, на думку дзяўчыны, няпроста, але цікава. Універсітэт – гэта новыя знаёмыя, шматлікія мерапрыемствы. Але ад суму па роднай Смаргоні нікуды не дзецца.

"Стабальніца" **Ксенія Капацэвіч** з сёмай маладзечанскай гімназіі таксама абрала міжнародныя адносіны ў БДУ. Лічыць, што ў гэтым універсітэце міжнародныя адносіны выкладаюць найлепш. Ксенія заўсёды любіла вывучаць мовы. У БДУ паляпшае веданне англійскай і пачала вывучаць нямецкую. Кажа, што пачынаць нешта "з нуля" заўсёды цікава, калі побач цудоўны выкладчык.

Ёсць і цяжкасці. Трэба хутка пісаць канспекты, засвойваць шмат новых ведаў. Канешне, не ўсё атрымліваецца. Але цяжкасці загартоўваюць.

Дзяўчына прызнаецца, што быў час, калі сярод натоўпу адчувала сябе адзінока. Аднак гэта хутка прайшло. Агульныя інтарэсы збліжаюць людзей.

386 балаў – такая сума была пасля здачы ўсіх тэстаў у маладзечанкі **Ганны Вашынкі**, якая скончыла гімназію-каледж мастацтваў. На 100 балаў яна здала грамадазнаўства. І за іншыя прадметы таксама атрымала высокія балы. У БДУ яна вывучае міжнароднае права. Кажа, юрыстам марыла стаць з дзяцінства. У школе паспяхова ўдзельнічала ў алімпіядах па грамадскіх навуках. Замежныя мовы таксама заўсёды падабаліся дзяўчыне.

– Высокая рэпутацыя факультэта міжнародных адносін цалкам апраўданая, – кажа Ганна. – Тое, што вучыцца тут складана, я зразумела з першых дзён. Складана, але неверагодна цікава.

**Аксана ЯРАШОНАК.**



Фота vk.com.

Лізавета Скробат.



Фота vk.com.

Ксенія Капацэвіч.



Фота vk.com.

Ганна Вашынка.

# Прымусіць гасцей набыць народныя строі, зладзіць конкурсы з шаблямі

## Маладзечанец са сваёй нявестай згуляў вяселле па-шляхецку

МАЛАДЗЕЧНА

**Усё большую папулярнасць набываюць шлюбы ў беларускім стылі: у вышыванках, з вянкамі, традыцыйнымі народнымі абрадамі…**

І гэта не даніна модзе, імкненне вылучыцца сярод астатніх, а ўласнае жаданне вярнуцца да каранёў, вытокаў.

Вяселле ў шляхецкім стылі зладзілі **Уладзіслаў Мароз** і **Ксенія Сайкова**. Іх урачыстасць адбылася 27 жніўня на Браслаўскіх азёрах.

### 200 чалавек былі сведкамі прапановы

Уладзіслаў родам з Маладзечна, цяпер жыве ў Мінску, займаецца мастацтвам. На адной з сустрэч творчай суполкі "Вячоркі Замалёўкі" ў студыю завітала і Ксенія.

– Яна адразу прыцягнула мой погляд, – расказвае Уладзіслаў. – Аднак падчас першай сустрэчы было неяк няёмка заляцацца. Нашы адносіны пачаліся пасля таго, як мы з'ездзілі ў музей народнай архітэктуры і быту ў Строчыцах. Там я бліжэй пазнаёміўся з Ксюшай, запрасіў на спатканне.

Пара сустракалася крыху менш за год, калі Уладзіслаў саспеў для таго, каб зрабіць прапанову.

– Вырашыў зрабіць гэта 14 студзеня, – расказвае мужчына. – Ксюша танцуе ў этнагурце "Кэтры", і ў гэты дзень у іх быў канцэрт. Папярэдне я дамовіўся з кіраўніком, калектывам, што пасля выступлення зраблю прапанову рукі і сэрца. Мяне падтрымалі. І вось я станаўлюся на адно калена і прашу Ксенію выйсці за мяне замуж. Шчыра кажучы, не чакаў такой рэакцыі: спачатку яна здзівілася, пасля паказаліся слёзы шчасця і, нарэшце, я пачуў чаканае "так, згодная".

– А як я магла адмовіцца, – узрушаецца Ксенія. – Стаяць 200 чалавек, глядзяць на мяне і чакаюць станоўчага адказу. Перад такім натоўпам неяк сорамна адмаўляцца.

У пачатку лета пара аднесла заяву ў ЗАГС і пачала падрыхтоўку. Зразумела, што рабілі ўсё спешна – у жніўні вяселле. Як прызнаюцца маладыя, шукалі прымальнае месца па ўсёй краіне, абзванілі каго толькі можна. І, нарэшце, з'ездзілі на Браслаўскія азёры, дзе ім усё спадабалася.

– Калі рыхтаваліся да ўрачыстасці, вызначыліся, што будзем рабіць у шляхецкім стылі, – адзначае Уладзіслаў. – І Ксюша здаўна цікавілася гісторыяй, народнымі традыцыямі, абрадамі, я таксама не быў абыякавым да гэтага. Таму ўсе нашы веды і зацікаўленні знайшлі адлюстраванне ва ўрачыстасці.

### Вясельныя боты прыйшлося нацягваць гадзіну

Пачалі маладыя падрыхтоўку з касцюмаў – замаўлялі ў знаёмай дызайнеркі **Дыяны Лавейкі**. Як пасля аказалася, многія госці таксама звярнуліся да яе па касцюмы. Нягледзячы на сціслыя тэрміны, спецыяліст выдатна справілася з задачай, але прыйшлося працаваць над уборамі і дзень, і ноч – як пчолцы.

– А вось ад вясельнага абутку засталося шмат разнастайных адчуванняў, – усміхаецца Уладзіслаў. – Справа ў тым, што замаўляў у майстра боты, якія зрабіў на свой манер, і перад урачыстасцю загадзя не прымераў. Як пачаў абуваць, а яны ні ў якую. Правазіўся каля гадзіны, каб усцягнуць, аказалася, што ў іх нізкі пад'ём, а ў мяне наадварот, таму не хацелі налазіць. Аднак нічога, калі ўсцягнуў, то боты нібы ўеліся ў нагу. Усё вяселле і прабыў у іх. Паступовa разнасіліся.

### Прымусілі гасцей набыць народныя строі

А вось многія госці, запрошаныя на ўрачыстасць, былі ў шоку, калі ім сказалі прыехаць на вяселле ў народных строях альбо вышыванках. Некаторыя абураліся, што за глупства прыдумалі маладыя, іншыя, наадварот, былі ўсцешаны гэтай прапановай, таму з задавальненнем пачалі пошукі.

Некаторыя госці вылучыліся таксама сярод астатніх. Так **Дзмітры Капцюх** быў у вышыванай сарочцы, якая дасталася ў спадчыну ад дзеда. Ёй больш за 80 гадоў.

– Сарочку сваімі рукамі вышывала ў свой час бабуля, – расказвае Дзмітры. – Зробленая яна з матэрыялу, які нечым нагадвае шоўк. Блакітнай ніткай на грудзях і рукавах вышыты сімвал сям'і. Захоўвае сарочку мая мама, але апранаю толькі на ўрачыстасці, каб не згубіць, каб не страціўся прыгожы знешні выгляд.

Мужчына быў настолькі прыемна ўзрушаны вяселлем, што плануе ў будучым зрабіць нешта падобнае.

### У лесе і ў полі шукалі матэрыялы для дэкарацый

Крыху менш за тры месяцы пара рыхтавалася да ўрачыстасці. Аднак сціслыя тэрміны не пужалі пару, яны нават узяліся самастойна зрабіць дэкарацыі.

> **– На гэта пайшло шмат часу, – узгадвае Уладзіслаў. – Прыйшлося абысці лес, каб сабраць мох, кару, галінкі дрэў і іншыя рэчы, патрэбныя для аздаблення.**

Вырашылі зрабіць вянкі, таму гулялі па палях у пошуках патрэбных кветак. Аднак вылікі таго каштавалі, мы рэалізавалі задуманае, госці былі ў захапленні.

Частавалі гасцей караваем, запечаным шчупаком па старажытным беларускім рэцэпце. Само мерапрыемства таксама было прадумана і не адрывалася ад агульнай тэматыкі. Незвычайныя гукі рабілі валыншчык і барабаншчык, якія стваралі настрой вяселля. Аднак кожны мог замовіць музыку, якая падабаецца яму. Былі і незвычайныя конкурсы, напрыклад, выпіць чарку гарэлкі з шаблі.



**Галіна Суднікові ч**
8793850
@gmail.com
Skype: sinica-galina92









**Маладыя адразу вызначыліся, што будуць рабіць вяселле ў шляхецкім стылі. І Уладзіслаў, і Ксенія здаўна цікавіліся гісторыяй, народнымі традыцыямі. Таму іх веды і зацікаўленні знайшлі адлюстраванне ва ўрачыстасці, якая адбылася 27 жніўня. Фота Віталя МАТУСЕВІЧА.**

НАВІНЫ

## “Забудова-Буд” прайграла лідару

МАЛАДЗЕЧНА

“Забудова-Буд” 10 верасня на дамашнім стадыёне прымала лідараў другой лігі чэмпіянату Беларусі па футболе – “Хвалю” з Пінска.

Землякі забілі першымі, на 12-й хвіліне. Гол на рахунку **Аляксандра Працкевіча**. Але потым госці завалодалі перавагай і адквіталі гол на 37-й хвіліне. А ў канцы матча дацiснулі саперніка: забілі два галы і выйгралі 3:1. Каманда з Чысці ідзе на шостым месцы.

## Віляйчане прайгралі “Уздзе”

ВІЛЕЙКА

ФК “Вілія” з Вілейкі ў працяг дамашняй серыі гульняў 11 верасня прымала “Узду”.

Як і ў мінулым матчы, у першым тайме гледачы галоў не пабачылі. У другім віляйчане прапусцілі гол на 76-й хвіліне. А ў самым канцы матча ў іх вароты ўляцелі яшчэ два. Выніковы лік: пройгрыш “Віліі” 0:3.

Наступны матч віляйчане таксама правядуць дома: 18 верасня супраць “Жодзіна-2007”.

## У скейт-парку Вілейкі закрыюць сезон спаборніцтвамі

ВІЛЕЙКА

У скейт-парку Вілейкі 17 верасня пройдзе закрыццё сезона. Скейтэры выявяць лепшых у дзвюх дысцыплінах: Jam па парку і best trick.

Пачатак спаборніцтваў – у 13 гадзін.

## “Ашмяны” мінімальна саступілі

АШМЯНЫ

ФК “Ашмяны” працягвае пройгрышную серыю. Каманда 10 верасня ў гасцях гуляла з “Тарпеда Мінск” і саступіла 2:3.

Да 59-й хвіліны ашмянцы прайгравалі 0:3, але здолелі скараціць лік да мінімуму: з інтэрвалам у шэсць хвілін вызначыўся нападаючы **Канстанцін Шавялёў**. Ён нядаўна далучыўся да каманды. Канстанціна адправілі ў “Ашмяны” ў арэнду з дубля мінскага “Дынама”.

У наступным туры сустрэнуцца каманды нашага рэгіёна. 17 верасня “Смаргонь” прымае “Ашмяны”.

**Аддзел інфармацыі.**

ХАКЕЙ

## “Дынама-Маладзечна” сезон пачынае з перамогі

МАЛАДЗЕЧНА

**Выязной перамогай з лікам 3:1 над жлобінскім “Металургам” стартавала наша “Дынама” ў чарговым чэмпіянаце краіны.**

Як летась, удзел у чэмпіянаце прымаюць дванаццаць калектываў.

На стартавым этапе яны правядуць двухкругавы турнір, потым будуць разбітыя на верхнюю шасцёрку і ніжнюю шасцёрку, дзе згуляюць у чатыры кругі.

Нарэшце вясной у серыі плэй-оф вызначыцца мацнейшы клуб краіны. Фаварыты ранейшыя – сямiразовы чэмпіён мінскае “Юнацтва” (апошні раз у 2016 годзе), пяцiразовы чэмпіён гродзенскі “Нёман” (апошні раз у 2014 годзе), а таксама ўдзельнікі, якія выйгралі па адным чэмпіянаце, салігорскі “Шахцёр” (2015 год) і ХК “Гомель” (2003).

Двойчы лепшым стануўся наваполацкі “Хімік-СКА” (апошні раз у 1997 годзе), адзін раз – жлобінскі “Металург” (2012 год). ХК “Магілёў” быў сярэбраным прызёрам 2002 года. Лепшыя дасягненні астатніх клубаў: “Віцебск” – 4 месца, “Брэст” – 5 месца, “Ліда” – 6 месца. Яшчэ ўдзельнічае моладзевая зборная краіны (узрост гульцоў да 20 гадоў), якая будзе дэбютантам турніру.

Маладзечанскае “Дынама” правяло ў экстралізе два сезоны. Лепшы вынік – пятае месца. Выйгралі 50 матчаў, прайгралі 58, розніца закінутых і прапушчаных шайбаў 282-318.

Нашых хакеістаў паранейшаму трэніруе дасведчаны спецыяліст **Дзмітры Краўчанка.** Дапамагаюць яму **Аляксей Гіро, Павел Мікульчык і Сяргей Шабанаў**, начальнік каманды – **Дзмітры Мельнік**.

Захаваны фарм-клубаўскі статус у дачыненні да мінскага “Дынама”, што выступае ў чэмпіянаце кантынентальнай лігі.

Таму наш склад могуць узмацніць гульцы, якія па розных прычынах не трапляюць там у заяўкі на матчы. Бліжэйшым часам у маладзечанскім ростэры мы пабачым варатара нацыянальнай зборнай **Міхаіла Карнавухава**, абаронцаў **Дзмітрыя Знахаранку і Яўгена Нагачова.**

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

# Мяч трапляе ў сетку і... пралятае над варотамі

МАЛАДЗЕЧНА

**Тое самае пачуццё, калі прыгатаваўся крычаць: ”Ессс”, але мяч, які пасля ўдару Сяргея Галюка толькі зачапіў сетку звонку, пакідае межы футбольнага поля.**

Пра гэта і іншыя расчараванні ад матча “Маладзечна-ДЮСШ-4” - “Асіповічы”, які ўсё ж скончыўся нічыёй – 1:1, – у нашым рэпартажы.

**Гледачы па-ранейшаму не цешаць каманду наведваннем стадыёна. Магчыма, таму, што гульня была ў будны дзень, у 17:30. Хаця, паклаўшы руку на сэрца, і ў выхадныя дні аншлагамі стадыён пахваліцца не можа.**

Трыбуны амаль пустыя, чаго не скажаш пра фанацкі сектар: хлопцы ў чорных майках падбадзёрваюць і заўзеюць за сваю каманду.

У гульні супраць Асіповічаў маладзечанцы згулялі наступным складам: **Антон Галгоўскі**, якога пасля атрыманай траўмы замяніў наш малады варатар **Радзівон Субач**; **Максім Чабрыцкі**, яму на замену ў пачатку другога тайма выйшаў **Арцём Грыб**; **Юры Малько**, якога замяніў **Ігар Нарожнік**; **Аляксандр Альховік**; **Сяргей Дрозд**; **Юры Бугай**; **Дзмітры Касцюк**; **Павел Галубовіч**; **Ігар Талькоўскі**; **Юры Пустаход**. **Антона Талстога** ў пачатку другога тайма спачатку замяніў **Сяргей Космач**, а таго пасля траўмы замяніў Сяргей Галюк.

На пытанне да трэнера каманды **Аляксандра Гармазы**, чаму менавіта стартавы склад каманды быў такім, трэнер адказаў:

– Нармальны склад, мы такім складам перамаглі “Мантажніка”. Бліжэйшае завяршэнне чэмпіянату, не да эксперыментаў цяпер.

Асіповічы цяпер займаюць другі радок турнірнай табліцы, маладзечанцы дыхаюць у патыліцу.

Ад таго, якія каманды ўвойдуць у першую тройку табліцы, будзе залежаць, ці згуляюць каманды ў першай лізе.

Глядач і прыхільнік футбола **Уладзімір** пасля гульні сказаў мне:

– Прэса, вы ж пойдзеце прасіць, каб каманду ўзялі ў першую лігу?

А каманда, калі меркаваць па гульні, у першую лігу хоча і імкнецца.

Калі ў першым тайме Асіповічы пераконвалі гаспадароў у тым, што перамога павінна дастацца ім: ствараліся небяспечныя моманты каля варот Антона Галгоўскага, такія, што ў адным з эпізодаў Антону ўсё ж давялося сысці на лаўку запасных. Гол у першым тайме гульцы Асіповічаў у вароты Радзівона Субача ўсе ж забілі.

У другім тайме маладзечанцы ўстрапянуліся, і гульня пайшла на палове поля гасцей.



Фота Наталлі ТУР.

Сяргей Галюк у той момант, калі гэты мяч павінны быў трапіць у вароты.

Атакі маладзечанцаў усё ж скончыліся голам, які Ігар Нарожнік забіў варатару Асіповічаў. Затым, натхніўшыся поспехам таварыша па камандзе, вароты гасцей атакуе Юры Пустаход. Пасля той самы гол Сяргея Галюка, калі гледачы набралі паветра ў грудзі, каб закрычаць: “Ес!”, але мяч паздрадніцку праляцеў па-над варотамі.

Да канца матча лік не змяніўся, дзве “белазялёныя” каманды разышліся мірна. Хаця трэнер маладзечанцаў застаўся незадаволеным.

– Вядома, хацелася іншага выніку. Значыць, нешта не дапрацавалі.

Наступны матч маладзечанцы згуляюць з камандай Чысці “Забудова-буд”. Папярэдне, гульня адбудзецца 24 верасня.

**Наталля ТУР.**

## “Смаргонь”: да трэцяга месца тры ачкі

СМАРГОНЬ

У матчы 18-га тура першай лігі чэмпіянату Беларусі па футболе футбалісты “Смаргоні” гулялі ў гасцях 10 верасня супраць “Гомельчыгунтранса”. Смаргонцы перамаглі з лікам 2:0.

На 21-й хвіліне матча **Сяргей Бандарэнка** ўдалым пасам вывеў на галявую пазіцыю **Максіма Яблонскага**, і той закалаціў мяч у вароты.

Яшчэ адзін гол смаргонцы забілі ў другім тайме. Ужо ў дададзены арбітрам час правялі выніковую контратаку. **Сяргей Галоўчык** амаль з цэнтра поля прабег па левым флангзе, зблізіўся з варатаром і пусціў мяч міма яго ў вароты.

“Смаргонь” з 29 ачкамі замацавалася на пятым радку турнірнай табліцы. Адрыў ад трэцяга месца зменшыўся да трох ачкоў.

**Аддзел інфармацыі.**



Фота Дзмітрыя ОШЕТАНЦА, sportaviny.com

Момант гульні.




## Вы падумаеце, што елі пірог з ананасамі, а на самой справе...

**Купіла неяк кілаграм тварагу – будзем харчавацца правільна і карысна. Муж адразу стаў круціць носам – не люблю. Я паела, але ўсё ж не з’ем.**




Так тварог прастаяў дзень, на другі мне стала яго шкада. Вырашыла зрабіць запяканку. Сярод сваіх запісаў знайшла рэцэпт запяканкі з грушамі. Выдатна, так менш падазрона.

На дно дробна парэзала грушы, у мяне былі са смакам ананаса, пасля заліла цестам. Нарэшце прыйшоў муж, сталі піць чай. І тут як пачне абурацца: “Што, грошы няма куды дзяваць? Пірагі з ананасамі робіць. Цяпер яблыкаў і груш безліч, а яна з ананасамі!”

Шчыра кажучы, чакала іншай рэакцыі, але запяканка пайшла на “ўра”. Пасля прызналася, што на самой справе рабіла яе з грушамі, якія маюць прысмак ананасаў. Муж здзівіўся, прасіў яшчэ раз прыгатаваць.

**Для запяканкі спатрэбіцца:** 500-600 грамаў тварагу, 4 сталовыя лыжкі цукру, 3 яйкі, 3-4 сталовыя лыжкі манкі, 1 чайная лыжка соды, гашанай воцатам.

Узбіце яйкі з цукрам да пены – запяканка будзе больш пышная, дадайце манку, тварог, напрыканцы соду. Усё добра перамяшайце.

На дно формы парэжце грушы, заліце цестам. Можаце чаргаваць слой груш з цестам. Пячыце да залацістага колеру.

**Паводле Алёны ЕМЯЛЬЯНЕНКІ.**

Падзяліцеся рэцэптамі фірменнай стравы з чытачамі. Дашліце іх на электронную пошту **regionnews@rh.by**, пажадана з фотаздымкамі.

За свае старанні пераможца зможа пабыць з кампаніяй на дзесяць чалавек у банкетнай зале “**Глушэц**”, якая знаходзіцца ў Маладзечне па Ларына, 2-а.




Кадр з фільма “Буслы”.

## А што вы адкажаце на пытанне: “Адкуль бяруцца дзеці”

**КІНО МАЛАДЗЕЧНА**

Для наведнікаў “Радзімы” прапануецца амерыканскі вестэрн “**Выдатная сямёрка**”. Гэта карціна прыйдзецца даспадобы аматарам жвавага сюжэту, упрыгожанага каўбойскай эстэтыкай, брутальнымі бойкамі і бязмежным памкненнем да свабоды.

Карціна з’яўляецца рэмейкам класічнага вестэрна 1960 года, які ў сваю чаргу быў зняты як адаптацыя філасофскай драмы Акіры Курасавы “Сем самураяў”. Ён увайшоў у Нацыянальны рэестр фільмаў ЗША як культурна, гістарычна і эстэтычна значны.

Дзея сёлетняга рэмейка таксама адбываецца ў 19 стагоддзі на мяжы ЗША і Мексікі. Невялікі гарадок прыгнятаюць наёмнікі кіраўніка прамысловасці. Па яго загадзе ў людзей адбіраюць грошы і дамы. Супраціўляцца ім небяспечна, яны забіваюць не толькі нязгодных, але і ўсю яго сям’ю. На дапамогу жыхарам прыйшоў дасведчаны каўбой, які збірае групу смельчакоў, каб адбіваць напады. Што атрымаецца ў герояў, глядзіце ў кінатэатры.

На пытанне: “Адкуль бяруцца дзеці?” вашы бацькі расказвалі, што вас прынеслі буслы ў дзюбе? Магчыма, вы самі гэта расказваеце сваім дзецям? Менавіта такі бацькоўскі хітрык лёг у аснову амерыканскага фэнтэзі “**Буслы**”.

Толькі ў свеце мультфільма цяперашнія буслы перакваліфікаваліся і займаюцца дастаўкай пасылак. Адзін з буслоў, які яскрава чакае павышэння, выпадкова актывуе машыну для стварэння дзяцей і атрымлівае мілую і незапланаваную дзяўчынку.

Пакуль начальства не даведалася аб неспадзяванцы, ён адпраўляецца ў неверагодную вандроўку, каб даставіць дзіця сям’і.

Паважаныя дарослыя, перад тым, як пайсці на фэнтэзі з дзецьмі, добра падумайце, што адкажаце сыну ці дачцэ на пытанне: “А адкуль па праўдзе бяруцца дзеці?”.

**КІНО ВІЛЕЙКІ**

У кінатэатры “Мір” сярод іншых карцін гледачоў чакаюць расійская камедыя “**Жанiх**” і фільм на гістарычную тэматыку “**Бен-Гур**”.

**Аддзел інфармацыі.**

**Пра час і цану кінасеансаў глядзіце ў рубрыцы “Рэпертуары” на нашым сайце**

Rh.by

### ГАРАСКОП
### 16–22 ВЕРАСНЯ



**Авен**. Вы цяпер балансуеце паміж сямейным жыццём і адзінотай і не ведаеце, што выбраць, таму што побач з вамі зусім не ідэал. Але ведайце, што сцерпіцца-злюбіцца – гэта не проста словы, а жыццёвая мудрасць.



**Цялец**. У сям’і не заўсёды будзе спакойна, але ўсё яскасна зменіцца да канца года. Адзінокім думкі і сэрца змог заняць толькі адзін чалавек і, магчыма, што да восені вы вырашыце ўзяць з ім шлюб.



**Блізняты**. Вам трэба добра ўсвядоміць правіла трох Н – няма нічога немагчымага.



**Рак.** Гэты час добры для пазнання ўсяго новага, вывучэння навук ці сваёй асобы, самаўдасканалення.



**Леў**. Каб вярнуцца ў рабочы строй пасля адпачынку, адшукайце ўнутраныя рэзервы. Як толькі вы пераключыцеся, то адразу ж заўважыце, як у вас адкрываецца другое дыханне і з’яўляюцца новыя сілы.



**Дзева**. Клапаціцеся пра сваё здароўе, бо месяц да дня нараджэння і месяц пасля дня нараджэння лічацца самымі “хваравітымі”.



**Скарпіён**. Магчымыя перажыванні, рознагалоссі ці расставанні не такія ўжо страшныя і негатыўныя, як можа здавацца напачатку. Проста ваша шчасце знаходзіцца ў іншым месцы, і вам неабходна пакінуць тое, што вас мучыць, і спакойна, без болі ў сэрцы, ісці далей.



**Шалі.** Не зайздросце чужому поспеху, асабліва ў справах, якія тычацца матэрыяльнай сферы. Памятайце: кесару – кесарава.



**Стралец**. У гэтыя дні адзіная сфера, дзе вы можаце сябе заняць, – інтэлектуальная. Можна займацца творчасцю, складаннем планаў і правядзеннем разлікаў.



**Казярог**. Для вас будзе сітуацыя, якая апісваецца кароткай фразай: пан ці прапаў. Сур’ёзна падумайце і дзейнічайце асцярожна, а можа, нават і перанясіце важнае рашэнне на іншы час.



**Вадалей**. Вучыцеся “расшыфроўваць” сігналы, якія пасылае вам падсвядомае “Я” і ўнікаць ў знакі вышэйшай волі, што будуць сустракацца на вашым шляху. Такая здольнасць стане памочнікам у справах.



**Рыбы**. Цяпер вам трэба разабрацца са старымі рэчамі і пачуццямі, і выкінуць хлам не толькі з дома, але і з галавы.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

### СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 4 | | | | | 1 |
| | 5 | | | | 9 | 2 | 8 | |
| | 6 | | | 3 | | | | |
| | 2 | | 6 | | 5 | | 9 | |
| 3 | | 1 | | | | 5 | | 6 |
| | 9 | | 7 | | 3 | | 1 | |
| | | | | 8 | | | 5 | |
| | 4 | 8 | 5 | | | | 3 | |
| 9 | | | | | 1 | | | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



ISSN 1991-7155
9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 17 верасня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +10 / +17 | | +11 / +17 | | +7 / +12 | | +8 / +11 | |
| | 740 | ↘ 5 | 742 | ↙ 4 | 743 | ↙ 4 | 744 | ↘ 2 |
| Вільня | +10 / +18 | | +10 / +14 | | +8 / +13 | | +7 / +11 | |
| | 749 | ↓ 4 | 751 | ← 4 | 753 | ↙ 4 | 753 | ↘ 1 |

Тэмпература паветра / Воблачнасць ападкі / Ціск (мм рт. сл.) / Хуткасць ветра м/с / Усход, захад па Маладзечне


Усход 6.50
Захад 19.22
Даўжыня дня 12.32


Усход 19.52
Захад 7.20
Квадра 3




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

ВІЛЕЙКА

Мінімальная тэмпература – 1,1 °С у 1971 годзе
Максімальная тэмпература + 24,5 °С у 1964 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 20,6 мм у 1984 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

● **У наступным нумары "РГ" журналіст памяняе прафесію. Як гэта працаваць мыйшчыкам машын? Ці праўда, што мыйка аўто – гэта толькі змыванне бруду шлангам? І як кіроўцы рэагуюць на тое, што ім машыну мые дзяўчына?**

● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ АСТРАВЕЧЧЫНЫ



Здымак фотамастака Юрыя Горыда.

● ПРОСТА АНЕКДОТ

Вяртаўся ноччу дадому. Наперадзе ішла дзяўчына. Азірнулася, паскорыла крок. Я таксама паскорыў. Яна пабегла, і я пабег. Яна закрычала, і я закрычаў. Не ведаю, ад каго мы беглі, але было неверагодна страшна!

***

Мастак запрасіў сваю натуршчыцу да сеанса на сняданак. Сядзяць, п'юць каву. Раптам стукнулі дзверы. Мастак:

– Хутчэй распранайцеся! Жонка прыйшла!

***

Настаўнік: "Тыя, хто будзе вучыцца на 6-10, трапяць у рай, а тыя, хто на 0-5, – у пекла". Голас з задняй парты: "А жывымі закончыць школу шанцы ёсць?"

***

Стук у вароты рая. Адчыняе апостал Пётр. Перад ім – футбаліст у жоўта-зялёнай форме.

– Ты хто? – пытаецца Пётр.

– Я – футбаліст гродзенскага "Нёмана".

– Нічога сабе! А як ты ў вароты трапіў?

***

Ідзём з сынам па вуліцы, размаўляем. Спакойна так ідзём. І раптам ён выдае: "Цудоўная ты ўсё ж такі жанчына, калі не крычыш!"

***

Лухта гэтае каханне. Лепш сабаку на вуліцы пакарміць, і то ўзаемнасці будзе больш.

***

Учора заснула ў пакоі мужа. Раніцай гляджу смс-кі ад мужа. 1:15 – Ты дзе? 2:36 – Ты дзе там ходзіш?!! 3:10 – Знайшоў :) Спі, каханая.

***

Тэлефануе мама, кажа, да мяне на працу зойдзе. Забегаў па кабінеце, павесіў куртку ў шафу, прыбраў на стале, схаваў брудныя кубкі.

Аляксей, 34 гады. Дырэктар.

***

Рамантую камп'ютары дома. Патэлефанаваў кліенту, сказаў, што ён можа прыязджаць і забіраць сістэмны блок. Аплата – 75 рублёў.

Пад вечар прыехаў кліент. Кажа, ёсць толькі 70 рублёў, пяцёрку праз дзень давязе. Грошы пералічыў ужо на наступны дзень. Аказалася, кліент выпадкова замест пяцёркі паклаў 50-рублёвую купюру. Ну, мне чужое не трэба. Кліент усё роўна прывязе пяцёрку, тады і вярну лішак. Прайшло два месяцы, кліент так і не заязджае. Аказаўся скнарай.

***

Фатограф, якога запрасілі на вечарыну, захапіў некалькі здымкаў, каб паказаць сябрам. Гаспадыня, убачыўшы фота, усклікнула: "Якія чароўныя! У вас, напэўна, вельмі дарагі фотаапарат".

Фатограф на гэта не адказаў нічога. І толькі пры развітанні ў канцы вечара заўважыў:

– Дзякуй, вячэра была неверагоднай! У вас, напэўна, выдатныя каструлі!

***

Мама падманвала маленькага Андрушу, што дзяцей знаходзяць у капусце. І ён нейк з бояззю пачаў глядзець на тушаную капусту з мясам.

***

– Ведаеш, што самае крыўднае, калі варыш пельмені?

– Што яны разварваюцца?

– Не. Калі вада ўжо пачынае кіпець, а ты адчыняеш халадзільнік, а пельменяў то і няма.



● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

## У якім горадзе вы хацелі б пабываць?



**Таццяна Заяц, Вілейка, у дэкрэтным адпачынку:**

– Падабаюцца беларускія гарады, дзе прыгожыя манастыры і цэрквы. Там бы хацела пабываць.



**Карына Хацяева, Маладзечна, навучэнка:**

– Мару з'ездзіць у Санкт-Пецярбург і паглядзець на белыя ночы.



**Кацярына Фаменка, Вілейка, у дэкрэтным адпачынку:**

– Да гэтага часу не была ў Брэсце. Бачыла фотаздымкі Брэсцкай крэпасці ў сяброў. Спадзяюся, калі дзіця падгадуецца, з'ездзім усёй сям'ёй у гэты горад.



**Алеся Церах, Маладзечна, прадавачка:**

– Мая мара – гэта Парыж. Яшчэ ў дзяцінстве, калі мы з сям'ёй глядзелі прагноз надвор'я, я заўсёды паказвала маме Парыж і казала, што хачу туды. Я шмат дзе пабывала. Бацька ў мяне вайсковец, таму мянялі шмат гарадоў. А вось у Парыжы пакуль так і не пабыла.



**Ягор Більдзюк, Маладзечна, вучань:**

– Мне вельмі падабаецца наш Мінск. Я быў там нядаўна. Але з задавальненнем з'ездзіў бы яшчэ раз.



**Кацярына Губко, Маладзечна, у дэкрэтным адпачынку:**

– Мару пра Піцер. А калі з больш далёкіх месцін, то хацела б у любы маленькі італьянскі горад з прыгожымі вулачкамі.



**Арцём Курыла, Маладзечна, вучань:**

– Хачу ў які-небудзь амерыканскі горад. Там так усё прыгожа, калі глядзіш фільмы або карцінкі ў інтэрнэце.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№38 (1116) 16.09.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 899. Падпісана ў друк у 9.00 15.09.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E-mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.